Савецкага Саюза, што ён не ведае яшчэ свайго новага адраса і г. д. Абы пазбавіцца ад страшных гэтых лістоў, якія, безумоўна, будуць і далей сыпацца на яго раптоўнымі ўдарамі, трымаючы яго скрозь пад лютай няўхільнай пагрозай. А хоць напісаць, што «я з вамі, кулакамі, не маю нічога супольнага, не лічыце мяне больш за сына, таксама як я не лічу вас за бацькоў...».

Карызна здрыгаецца ад аднае думкі пра гэта.

Не, ён яшчэ не дайшоў да гэтага, у яго не хопіць адвагі на такую подласць, бо на подласць, як і на геройства, трэба таксама адвага.

Так і не знайшоў быў Сымон Карызна ніякага выйсця з цяжкога свайго неўразумення, адно заблытаўся яшчэ больш у чорнай немарачы глухіх супярэчнасцей.

З гэткім настроем прыждаў Карызна таго «гістарычнага» ў сівецкім маштабе партыйнага сходу, на якім абмяркоўвалася пытанне іхняе спрэчкі з Зеленюком.

Карызна скрозь удаваў, што ён не надае асаблівае значнасці гэтаму пытанню, нават не дазволіў склікаць дзеля яго спецыяльнага пазачарговага сходу ячэйкі, і, такім чынам, ад іхняе гутаркі з Зеленюком да партыйнага сходу прайшло блізка тыдня. Праз гэты тыдзень ён, сам таго не ўсведамляючы, збіраў у сабе ўсю сваю злосць, усе свае прыкрасці, чым бы яны ні выклікаліся; стаўпляў іх унутры, каб потым пераліць усё гэта — мо несвядома, мо супроць волі — у варожае пачуццё да аднаго чалавека.

У практыцы партыйнае работы ў Сіўцы не было яшчэ выпадку, каб сход ячэйкі сабраў быў навокал сябе такую пільную напружаную ўвагу ўсяго жыхарства. Гэтага сходу чакалі ўсе: і партыйныя, і беспартыйныя, і прыяцелі партыі, і ворагі, і сур'ёзныя людзі, і скалазубы. Адны чакалі з шчырай турботай аб справе, другія — з пустым мяшчанскім цікаўствам, трэція — з варожай злараднасцю. За выключэннем апошніх, якіх больш радаваў сам факт спрэчкі сярод камуністаў, чымся яго вынікі, усе іншыя спачувалі Зеленюку, цягнулі яго руку, хоць часам і не ведалі самае сутнасці справы. Гэта была дэманстрацыя таго нездаволення, якое паволі, але неадступна ўзнімалася супроць Сымона Карызны.

Ён сам ведаў пра гэта і, сціскаючы кулакі, пагражаў:

— Чакайце, даражэнькія. Яшчэ пабачым, хто чаго варты!

Напярэдадні сходу да Карызны прыходзіў Якуб Лакота. Ён доўга гаварыў сваім ціхім разбітым голасам, тлумачыў, чаму яны наважылі зрабіць свой калектыў, якая з гэтага будзе карысць. Як і Зелянюк тады, ён перасцерагаў, што не дазволіць гэтага,— значыць, загубіць усю справу. Ён намякнуў і на тое, што, як відаць па ўсім, уся гэтая

звадка не пойдзе на карысць партыі, што яна дэзарыентуе ячэйку.

З пашаны да былога партызана і чырвонагвардзейца Карызна спакойна выслухаў яго да канца, але зразумеў так, што гэта яго падаслаў Зелянюк, не іначай, і закіпеў яшчэ горшаю злосцю. Якубу ж адказаў далікатна, але вельмі суха, што ягоныя меркаванні возьме на ўвагу.

Быў яшчэ адзін чалавек, які ледзь стрымліваў у сабе настойнае жаданне пайсці да яго і ў гарачай шчырай размове адкрыць яму вочы, паказаць яму тое, чаго ён не бачыць ці не хоча бачыць, затрымаць яго на краі прорвы, куды ён ідзе з адчайнай рашучасцю самагубцы.

Але чалавек гэты быў адцяты ад яго і не мог да яго пайсці, бо гэта была Марына Паўлаўна.

Сход быў закрыты: адны партыйцы ды камсамольцы. З беспартыйных прыскочыў быў Галілей, дык камсамолец Віктар адвёў яго ўбок і далікатненька растлумачыў, што яму тут быць няможна. Стары — праўда, што неахвотна,— але без лішняе гамонкі пацюпаў дахаты.

Настрой ува ўсіх быў стрыманы і троху ўрачысты. Бадай не было зусім звычайных — шумных, вясёлых перадсходавых гутарак — усе маўкліва чакалі пачатку.

Карызна прачытаў парадак дня, і ўсіх непрыемна здзівіў неспадзяваны зварот справы. У парадку дня стаялі зусім іншыя, не датычныя асноўнае справы пытанні, а «асноўная» справа стаяла сціпла ў рубрыцы «Рознае» і называлася так:

«Аб праявах партызаншчыны ў працы брыгадзіра т. Зеленюка».

Усе дамысна перазірнуліся, а «брыгадзір т. Зелянюк» непрыметна ўсміхнуўся — троху пагардліва, а троху балюча.

У панурым маўчанні слухалі даклады па пытаннях, вызначаных у парадку дня. Спрэчак было мала, і гэта не дзівіла нікога — усе адчувалі, што гэтыя даклады лішнія сёння, што яны пастаўлены выключна на тое, каб надаць справе Зеленюка адумыслова дробны асабісты характар,— ўсе чакалі «Рознага». І, як яно падышло, усе застылі ў пільнай увазе.

Карызна зрабіў кароткую інфармацыю. «Брыгадзір Зелянюк цалкам самастойна, без пагоджання з партыйнаю ячэйкаю вырашыў пытанне аб арганізацыі ў Сівалапах асобнага калгаса і — зноў жа без ведама ячэйкі — абвясціў пра гэта жыхарству і нават правёў папярэдні запіс. Зелянюк мусіў ведаць, што гэта цалкам супярэчыць плану калектывізацыі сельсавета, які быў зацверджаны ячэйкаю, і, такім чынам, зусім свядома парушыў партыйную дысцыпліну, што

асабліва злачынна ва ўмовах абвостранае класавае барацьбы і напружанае працы па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Што да самае справы арганізацыі ў Сівалапах асобнага калгаса, дык яна ні разу не абмяркоўвалася ў партыйных арганізацыях і не мае актуальнага значэння, бо цяпер вядзецца ўзмоцненымі тэмпамі работа па арганізацыі аднаго вялікага калгаса на ўвесь Сівец».

— Хто хоча слова па гэтым пытанні?

Усе мімаволі павялі вокам на Зеленюка, і ён устаў са свайго месца.

— Слова мае Зелянюк.

Хто сядзеў блізка да Зеленюка, той, пэўна, заўважыў, як страшна скасілася ў Зеленюка левае вока і як задрыжалі яго тонкія рэзкія вусны. Загаварыў ён ціха, з глыбокай, што мімаволі даходзіла да нутра, шчырасцю і праканаласцю:

— Таварышы! Я цалкам згодзен з усім, што сказаў у сваёй кароткай інфармацыі т. Карызна, і кажу гэта не для фігуравання, не для гульні ў прызнанне памылак, а з праўдзівым адчуваннем адказнасці за свае цяперашнія словы і за ўчынкі, якія сёння тут абмяркоўваюцца. Я зрабіў вялікую злачынную памылку. Думка пра арганізацыю калектыву ў Сівалапах вынікла была цалкам выпадкова, стыхійна, на неафіцыйнай сходцы ці, правільней, гутарцы. І замест таго каб скарыстаць гэты стыхійны зрух, каб, узгадніўшы справу з ячэйкай, даць яму належны кірунак, я сам паддаўся гэтай стыхійнасці і, захоплены раптоўным праектам, санкцыянаваў яго і нават запэўніў, што сам зраблю ўсе неабходныя для гэтага фармальнасці... Я мушу з поўнай шчырасцю сказаць тут і пра іншую сваю памылку, якая арганічна звязана з гэтай. Гэтая памылка ў тым, што я ў сваёй працы бадай усю ўвагу аддаў Сівалапам як асноўнай базе сівецкае беднаты, а ў самім Сіўцы да гэтага часу бедната як след не апрацавана і ў значнай частцы знаходзіцца пад кулацкімі ўплывамі. Я нядаўна толькі ў гэтым пераканаўся і раблю ўжо захады, каб як найхутчэй выправіць гэты свой — дый наогул наш усіхні — недагляд... Зноў кажу, таварышы, што я цалкам усведамляю ўсю глыбіню сваіх памылак, асабліва беручы на ўвагу тыя выключныя абставіны нашай сучаснай работы, пра якія гаварыў т. Карызна, і гатоў панесці заслужаную кару...

Ён зрабіў кароценькую паўзу, і гэтая паўза яшчэ больш напружыла жорсткую ўвагу сходу.

— Але, таварышы, я буцу прасіць, я буду вымагаць таго, каб зараз жа, на сённяшнім сходзе, пасля таго як вы абмяркуеце маю справу, паставіць пытанне пра сівалапаўскі калектыў і наогул пра

справу калектывізацыі Сіўца. Я з поўнай адказнасцю за свае словы заяўляю, што пытанне гэта, насупар думцы т. Карызны, актуальнае, больш таго, яно неадкладнае, ад яго пільнага вырашэння залежыць — быць ці не быць Сіўцу ў калектыве. Я заяўляю, што некаторыя таварышы — свядома ці несвядома — бяруць у гэтай справе няправільную, шкодную лінію, што, калі так пакінуць далей, мы можам на доўгі час скампраметаваць у нашым сельсавеце ідэю калектывізацыі. Я маю наўвазе т. Карызну і некаторых іншых. Калі будзе пастаўлена пытанне, я выкажу больш стала свой погляд, а цяпер прашу толькі аднаго — не падумайце, што гэта гаворыць ува мне голас нейкае асабістае варожасці да Карызны ў сувязі з маёй справаю. Я супроць Карызны нічога не маю і нават удзячны яму, што ён з бальшавіцкай рэзкасцю ўшчуў мяне за мае памылкі. Я спадзяюся, што і сам т. Карызна падтрымае маю прапазіцыю, бо лепш мець поўную яснасць у справе, чымся даваць прычыну да розных сумненняў, якія, я гэта ведаю добра, ёсць не толькі ў аднаго мяне...

Як ён скончыў, глухое маўчанне сходу набыло злавесную напружанасць. Зеленюку ўсё роўна не далі веры, не ўважаючы на ўсю яго шчырасць і праканаласць — усё роўна чакалі ўсе злоснага бою паміж ім і Карызнам, і адны панура хмурыліся ў нездаволенні, а іншыя дрыжалі ў дрэннай цікавасці, у прадчуванні гучнага эксцэсу.

Маўчанне раптам – з аднаго маху – перарваў тонкі, узняты на недасяжную вышыню голас Пацяроба. Усе ведалі, што калі Пацяроб зачынае тонка, з вышыні ды калі яшчэ ўвалье ў свой голас саладжава-мілоснага тону, значыць, скажа ўжо нешта рэзкае, нахабнае, пацяробаўскае.

— Даражэнькі мой, любачка мая, які ты разумны... У цябе ж так яно ўсё выходзіць добра, складна, што ніякі табе камар не то што носа, а і паўноса не падточыць... Ну пэўна, што няправільная лінія ў нас... Якая ж гэта лінія? Мы ж толькі камп... камп... прымітуем...

Ён не выгаварыў гэтага слова, безумоўна, наўмысля, з дэмагагічнай мэтай, каб здабыць прыхільнасць сваёй мужыкаватай прастатой і абсмяшыць Зеленюкову гарадскую «мудронасць». І праўда — дзе-хто засмяяўся з вясёлым спачуваннем.

— А скажы ты мне, золатка, папросту, па-нашаму: што ты гэта сабе думаеш? Чаго ты гэта тут завінуўся? Ці ты думаеш, што з горада прыехаў, дык ты адзін толькі разумны тут, а мы ўсе набітыя дурні? Ну ты ж падумай, родненькі мой, даражэнькі, гэта ж ты ўсю ячэйку занівошта становіш... Бо мы ж усе тут разам робім, уся ячэйка, а не Карызна там, Пацяроб ці яшчэ хто... Праўда, што ты палітычна свядомы чалавек, рабочы, скажам так, пралетар. Але ж, можа, хто

яшчэ больш за цябе працаваў на фабрыцы — ты яшчэ пешай брыгадай пад стол тады лазіў — дык ужо ён не рабочы? Ён ужо цёмны чалавек, дурань?..

На гэтым ён скончыў сваё сяброўскае мілоснае ўшчуванне Зеленюка і шырокім жэстам размахнуўся да ўсяе аўдыторыі.

— Ну вы ж падумайце толькі, людцы добрыя... Набраў там дзесятак гаспадароў дый думае, што ён ужо, барані божа, увесь свет калектывізаваў. Гатова ўжо, маеце цэлы калгас... А каго ён яшчэ набраў, я б таксама запытаўся.

Тут ён паспрабаваў усміхнуцца таямніча і хітра, але неслухмяныя фальбоны ягонага твару ўсе роўна склаліся ў звычайную яго безнадзейна-горкую міну. І голас замест падазрона-дамыснага тону набыў тон іранічнай плаксівасці.

— Можа, палавіну з тваіх калгаснікаў параскулачваць трэба, га? Ты, любачка, пра гэта, мусіць, не думаў? Не было часу падумаць? Трэба было глядзець, як робіць Карызна з

Пацяробам...

І нястрыманы Пацяроб з кожным словам усё больш і больш удаваўся ў грубы адкрыта дэмагагічны тон, аздоблены нязграбнымі, як сам ён, жартамі. А скончыў ён патэтычным заклікам да ячэйкі, каб яна не здавалася ні на якія шкадлівыя падходы выпадковых людзей (гэта азначала — Зеленюка) і захоўвала, як і дасюль, поўную згоду, дружнасць і аднадушнасць. Гэтыя словы, ёмка цэленыя ў мясцовы патрыятызм ячэйкі ды яшчэ насычаныя такім гарачым імкненнем да дружнае згоды, зрабілі належны ўплыў. Нават шмат хто з тых, каго абурала дзікая пацяробаўская дэмагогія, нібы забыліся ў гэтую хвіліну на яе і гатовы былі прыстаць на тое, каб сапраўды не ўзнімаць лішняга галасу. Ну, памыліўся хлопец, даць вымову яму ці на від паставіць, ды і па тым.

Карызна чуў гэты настрой і ўжо загадзя трыумфаваў. Як скончыў Пацяроб і, апетытна бразнуўшы аб бок наганам, сеў на сваё месца, Карызна (ён сам вёў гэты сход) рэзюмаваў:

— Такім чынам, таварышы, справа ідзе аб тое, ці станавіць нам сёння на парадак дня пытанне аб пераглядзе плана калектывізацыі, ці не. Я думаю, што патрабаванне Зеленюка — хоць яно і сапраўды, як ён кажа, не звязана з ягонаю справаю, але ўсё роўна не мае рацыі. Ды і часу на гэта пойдзе немаведама колькі, а сёння ўжо позна. На наступным сходзе будзе справаздача бюро, і тады сама па сабе ўсплыве напаверх і ўся гэтая справа. Адылі, каб не было непаразумення, я прагаласую...

Ён неўзаметку кінуў погляд на Зеленюка, каб пабачыць, якое

ўражанне зрабіў на яго такі зварот справы, але выбраў на гэта не зусім удалы момант, бо адразу натыркнуўся на востра ўпятыя ў яго калючыя Зеленюковы вочы і мімаволі пачырванеў ад незразумелага замяшання.

Няўжо яму сорамна стала перад гэтым блазнюком? Няўжо ён прызнаўся перад ім у сваёй несправядлівасці?

Зелянюк усміхнуўся сваёй тонкай загадкавай усмешкай.

Невялічкая паўза, якую Карызна вымушаны быў зрабіць, сустрэўшыся раптам з Зеленюковым поглядам, перайначыла ўвесь ход падзей. Яго хвілінная ледзь прыметная няўпэўненасць, як іскра кароткага замыкання, разрадзіла агульны памысны для яго настрой, і, пакуль ён стараўся авалодаць сабой, каб пачаць галасаванне, яго перасцігнуў смелы, выразны голас камсамольца Віктара:

— Галасаванне тут не паможа... Прагаласаваць хіба, каб замазаць справу? Таварышы...

І ён, каб надаць больш вагі сваім словам, устаў з месца і нават ступіў два крокі наперад, як-ткі і належыць кожнаму сталаму прамоўцу:

— Ўжо адно тое, што ўзнялася тут на сходзе спрэчка паміж таварышамі, і спрэчка досыць заўзятая, калі меркаваць па выступленню Пацяроба, гаворыць за тое, што ў ячэйцы не ўсё добра, што ў ёй ёсць нейкая нутраная хвароба, па меншай меры нейкая недагаворанасць, Дык ці гэта рахуба, калі мы возьмем ды загонім яшчэ глыбей гэтую хваробу, не даўшы ёй рады? Што — позна? Часу мала? Смешна было б і казаць пра гэта. А калі мы і цэлую ноч праседзім, каб развязаць пільную справу? Ці такі час цяпер, каб на гэта зважаць? Я, таварышы, у працэсе камсамольскай работы штодня стыкаюся з усімі тымі справамі, аб якіх тут ідзе гамонка, І я павінен сказаць, што цалкам згодзен з усім тым, што казаў Зелянюк, і падтрымліваю ягоную прапазіцыю...

Віктар — дармо што малады,— а ўмеў сказаць з вялікім сэнсам, і кароценькая, але трапная прамова яго зрабіла ўражанне. Дружным хорам падтрымалі яго вясковыя камсамольцы, наракаючы на тое, што затрымка з калектывізацыяй Сіўца звязвае ім рукі ў іхняй працы па вёсках. Камсамольцаў падтрымалі вясковыя партыйцы, і троху-патроху ўвесь сход прыстаў на тое, што трэба канечна зараз і як найглыбей разабраць сівецкія справы, што пакідаць іх у гэткім стане, як цяпер,— злачынства супроць партыі.

Карызна чуў, як усё нутро ў яго гарыць у пякучым агні шалёнае злосці. Ён быў упэўнены, што ўсё гэта ён, Зелянюк, падстроіў, і то ўжо загадзя было ў іх умоўлена — нездарма ж усміхаўся ён сваёй

нялюбай самаўпэўненай усмешкай.

Дык жа ты гэтак? Ты яшчэ трапечашся? Ты яшчэ біцца лезеш? Думаеш, падгаварыў хлопцаў, навухрыў іх, дык ужо і твая сіла? Чакай жа, мой даражэнькі, не так яно будзе, як ты думаеш!..

Зларадасная ўпэўненасць у немінучым правале Зеленюка дае Карызну сілу стрымаць да пары сваё абурэнне, і толькі едкая ўсмешка, мімаволі расцягваючы вусны, троху здраджае яго. Ён зварочваецца да Зеленюка з адменнай далікатнасцю:

— Калі ласка! Слова даецца т. Зеленюку...

Але Зелянюк ад слова адмаўляецца, і ён гаворыць, пгго ўсе матэрыялы, датычныя сівалапаўскага калгаса, мае пры сабе Якуб Лакота, дык яму і лацвей гаварыць пра гэта.

— Слова мае т. Лакота.

І Карызна моўчкі сціскае зубы. Гэты Зелянюк хітрэйшы, чымся ён думаў. Ведае, што Якуба Лакоту ўсе шануюць, што ён мае ў ячэйцы бясспрэчны аўтарытэт, дык наўмысля выставіў яго на гэтую справу. Добра, пабачым, што будзе далей...

Якуб Лакота выйшаў да стала, бо трэба было дзе раскласці паперы, асцярожна — відаць, што балела,— адкашляўся і ціха ўсміхнуўся сваей мілай, па-дзяцінаму нясмелай, нібы беспараднай усмешкай. На худых, запалых шчоках у яго зацвіла ліхаманкавая чырвань, а вочы заблішчалі ясным чыстым агнём.

— Я перш-наперш павінен выказаць шчырае здзіўленне з таго, што ў нашай сівалапаўскай справе чамусьці вінавацяць аднаго Зеленюка, а пра мяне, напрыклад, не сказалі ніводнага слова. А я, можа, нават раней за яго згадзіўся на арганізацыю асобнага калгаса і таксама без ведама ячэйкі. Віна мая роўная з Зеленюковай, і я, як і ён, цалкам прызнаю яе і патрабую сабе гэткага самага, як і яму, пакарання... А цяпер пра самы наш калгас... Я раскажу пра тое, што ў нас ёсць, з чым мы ўзяліся за яго арганізацыю.

І ён спакойна, дзелавіта пералічыў, колькі ўжо запісалася на папярэднім запісе, колькі яшчэ напэўна запішацца, дакладна азначыў сацыяльны стан будучых калгаснікаў, прычым настойліва запытаў у Пацяроба, каго ён мае на ўвазе з іх раскулачыць, і ўвеў таго ў досыць прыкрае замяшанне. Апісаў яскравымі фарбамі, які быў настрой у сівалалаўцаў, калі паўстала пытанне пра асобны калгас, і як нядобра адбілася на гэтым настроі раптоўная затрымка. І ў заключэнні даў простыя, ясныя довады таго, што ўтварэнне сівалапаўскага калгаса зрушыць з месца ўсю справу калектывізацыі не толькі ў Сіўцы, а і ўва ўсім сельсавеце.

Карызна сачыў за сходам і бачыў, як Якубавы спакойныя,

разважныя словы клаліся на застылыя ў глыбокай увазе твары партыйцаў праблiскам новага яснага пераконання. Ён чуў, што вельмі цяжка, бадай немагчыма будзе разбіць гэтае пераконанне, што яно паўстае супроць яго нязрушнай і непрабітнай сцяной, гатовае затуліць ненавіснага Зеленюка ад усіх яго ўдараў.

І ў Карызны да злосці і нянавісці памалу далучалася няясная трывога, а следам за ёй ледзяным цурочкам тачыўся ўжо ў сэрца яго неразлучны спадарожнік апошніх дзён – грозны няўхільны страх. Ён разумеў, што Зеленюкова перамога – гэта моцны ўдар па ім, па ягоным аўтарытэце, што яна немінуча выкрые яго драбязговыя асабістыя інтарэсы ў гэтай справе або, што ані лепей, пакажа поўнае яго неразуменне справы, яго тупое запярэчанне відочна правільнаму карыснаму мерапрыемству.

Адылі ён яшчэ не думаў здавацца. Галава яго ліхаманкава працавала над адшуканнем якога-небудзь новага спосабу, якога-небудзь новага ўдару — з таго боку, адкуль яго ніяк не чакаюць. Ён ведаў ужо, што звычайнымі спрэчкамі, звычайнымі довадамі не ймеш, што ратаваць яго можа толькі спрытны,. шпаркі ход, які б, зваліўшыся знячэўку на галовы яго супрацiўнікаў, перавярнуў адразу ўсю справу дагары нагамі. І тут у яго з'явілася смелая, адчайная думка, якая зараз жа абярнулася ў цвёрды замер.

Ледзь дачакаўшыся, пакуль скончыць сваю прамову Лакота, Сымон Карызна ўстаў і заявіў дрыжачым ад узрушэння голасам, які адразу даў усім зразумець, што мова ідзе пра нешта надзвычай важнае, экстраардынарнае, чаго, можа, ніколі не чула яшчэ сівецкая партыйная ячэйка. Усе замерлі ў чаканні.

— Таварышы! Перш чым весці далейшае абмеркаванне гэтае справы, я як сакратар ячэйкі павінен зрабіць адну вельмі важную заяву. Сённяшні сход, а таксама і шмат іншых выпадкаў, з якімі мне давялося стыкнуцца за апошні час, пераканаў мяне, што ў нашай ячэйцы ёсць сакрэтная групоўка, якая злачыннымі метадамі фракцыйнай работы праводзіць сваю асобную лінію. На сённяшнім сходзе мы мелі арганізаванае выступленне гэтае групоўкі, накіраванае на тое, каб скампраметаваць бюро ячэйкі і яго лінію ў рабоце, а значыць, і лінію ўсяе ячэйкі, а таксама сарваць план калектывізацыі сельсавета, які ўхвалены ячэйкаю і ўзмоцненымі тэмпамі праводзіцца ў жыццё. На чале гэтае групоўкі стаіць Зелянюк. Не трэба асаблівае пільнасці, каб заўважыць, што ўся сённяшняя атака вядзецца па загадзя абмеркаванаму плану, выпрацаванаму на спецыяльным фракцыйным сходзе, на якім таксама размеркаваны паасобныя ролі. Як сакратар ячэйкі, я катэгарычна вымагаю таго, каб зараз жа

спыніць далейшы разгляд справы і даручыць бюро або спсцыяльнай камісіі ў найпільнейшым парадку даследаваць пытанне аб фракцыйнай рабоце Зеленюка і іншых, каб ужыць адпаведныя арганізацыйныя захады.

Сенсацыйная заява Сымона Карызны зрабіла ўражанне раптоўнага аглушлівага выбуху. З хвіліну ўсе разгублена маўчалі, ашаломленыя неспадзеўкаю, ніхто не важыўся першы парушыць гэтае прыкрае цяжкое маўчанне. І калі раптам яго прарэзаў працяглы адумыслова-выразлівы свіст, амаль усе здрыгануліся і спалохана азірнуліся, шукаючы крыніцы дзікага, цалкам нестасоўнага да моманту гуку.

Гэта свіснуў, вядомая рэч, Пацяроб. І зараз жа, следам за свістам, грымнуў яго бесцырымонны голас, разарваўшы ў мэтлухі ўсю тую змрочную трывожную цішыню:

— Дык вось яно што? А-га-га-га!.. Галубочкі мае, родненькія... Дык вы ўжо фракцыі рабіць панаўчыліся? Як той, не тут кажучы, Троцкі? Я гляджу, што ўсё гэта ў іх як па нотах. Аж бачыш ты іх! Груповачкі, фракцыйкі... Ого-го-го!.. Здорава, любачкі! Малайцы, красачкі! Даражэнькія мае!..

Ён быў страшэнна рад, гэты дзівак Пацяроб, і не мог схаваць свае нядобрае злоснае радасці. Ягоная радасць зрабіла на сход дрэннае ўражанне, і нават нехта нялішне далікатна суняў яго раз'юшаны лямант:

— Сціхні ты ўжо! Чаго галёкаеш, як у лесе!

Але дзе ты яго, Пацяроба, угамуеш, як раскрычыцца! Такі ўжо бязладны, разгойданы чалавек...

Сход ажывіўся. Троху-патроху ўзнялася жвавая гамонка, якая нарэшце перайшла ў тлумны гармідар. Слова ніхто не прасіў,— мабыць, ніхто не важыўся першы выступіць у гэтай надзвычай далікатнай і палітычнай справе — усе гаварылі разам, адзін аднаму ці ўсім адразу, а не, дык проста самому сабе, і нельга было разабраць, у які бок фактычна схіляецца агульная думка сходу. Карызна тлуму не сунімаў, не заклікаў да парадку — ён чуў, што гэты тлум яму на карысць.

Тады ўстаў са свайго месца бледны, зацяты ў цвёрдай, як крэмень, сур'ёзнасці Зелянюк. І ці толькі ўзняўся ён над усім тым бязладным гармідарам — стрыманы, роўны,— ураз апала шумнае ажыўленне і занялося зноў цяжка, балюча напятае маўчанне.

— Я думаю, што ўсе зразумелі, якое глыбокае абвінавачанне ўзняў супроць мяне сакратар ячэйкі т. Карызна. Я не буду цяпер ні выпраўдвацца, ні ў сваю чаргу абвінавачваць т. Карызну. Я цалкам

далучаюся да ягонае прапазіцыі — у найпільнейшым парадку даследаваць гэтую справу. Але я катэгарычна пратэстую супроць другой яго прапазіцыі, каб спыніць далейшы разгляд пытання пра сівалапаўскі калгас і калектывізацыю Сіўца. Я ўпэўнены, што ў гэтым падтрымаюць мяне і іншыя таварышы, бо пытанне гэта вынікае не толькі з мае нібыта фракцыйнае работы, а з агульнага стану калектывізацыі ў сельсавеце. Мне здаецца, што і сам т. Карызна не будзе дужа супярэчыць, бо іначай ён ясна пакажа, што ўсю гэтую гісторыю з фракцыйнасцю ён узняў выключна затым, каб затрымаць абмеркаванне таго пытання, якое ён з нейкіх невядомых прычын упарта не хацеў паставіць у парадак дня... Я прапаную весці далейшае абгаварэнне распачатае справы...

Зеленюкову прапазіцыю ўхвалілі аднагодна, і на сходзе зноў запанаваў спакойны, дзелавы настрой.

Карызна і сапраўды не супярэчыў — Зелянюк спрытнай заўвагай звязаў яму рукі. Падчас далейшых спрэчак ён сядзеў хмуры, злосна затулены ў сабе і нават мала слухаў таго, што гаварылі прамоўцы. Яго агарнула цяжкая апатыя — яму хацелася аднаго: скончыць як найхутчэй гэты няўдалы сход і адпачыць. Ён зусім аўтаматычна даваў слова прамоўцам, ставіў на галасаванне прапазіцыі, заклікаў, як трэба было, да парадку.

Па доўгіх жвавых спрэчках у пратаколе сходу ячэйкі запісалі:

1. Паставіць на від т.т. Зеленюку і Лакоту іхнюю недысцыплінаванасць, якая выявілася ў тым, што яны без ведама ячэйкі развязалі пытанне пра арганізацыю ў Сівалапах асобнага калгаса.

2. Самы факт арганізацыі ў Сівалапах самастойнага калектыву ўважыць за мэтазгодны і калектыў арганізаваць з тым, аднак, каб пасля ўтварэння калгасаў у Сіўцы гэтыя два калгасы злучыць у адзін.

3. Звярнуць асаблівую ўвагу на работу сярод сівецкае беднаты — пашырыць яе і ўглыбіць, выкарыстаўшы дзеля гэтага ў грунце сваім правільную практыку работы з беднатой у Сівалапах.

4. Прыняць да ведама заяву сакратара ячэйкі т. Карызны пра тое, што ў ячэйцы існуе сакрэтная групоўка на чале з т. Зеленюком. Даручыць бюро ячэйкі дакладна высветліць гэтую справу і ўсе матэрыялы падаць на наступны агульны сход ячэйкі.

Па зачыненні сходу, калі Карызна — хмуры і разгублены — варочаўся дахаты, яго дагнаў неадменны Пацяроб і, нахіліўшыся да самага Карызнава вуха, прасіпеў з поўнай бадзёрасцю:

— Не бойся, Сымонка! Плюнь ды яшчэ і разатры... Не тое бачылі... Цьфу!..

## 10

Назаўтра з самага рання Сымон Карызна паехаў у раён. Раён знаходзіўся вёрст за пятнаццаць ад Сіўца ў ладным мястэчку, якое мясцовыя жыхары зусім сур'ёзна звалі горадам.

Дык гэты самы горад у пару, якая апісваецца ў нашым апавяданні, меў на сабе хоць з выгляду, можа, і малапрыметны, але глыбокі, востраадчувальны адбітак бурнай эпохі. Усё было звычайнае, даўнейшае, але над усім лунаў дух агульнай напружанасці, трывожнага чакання.

На шырокім рынкавым пляцы, акурат пасярод мястэчка, было паўнютка сялянскіх вазоў, але прадавалася чаго дужа мала. Прыязджалі паслухаць навін, пагаманіць, улавіць настрой новага дня, каб распастрыць яго нявідныя кволыя ніці па ўсёй тэрыторыі раёна. Сыходзіліся сям-там невялічкімі расплыўчастымі купкамі сцеражлівыя, цікавыя і хціва лавілі адзін у аднаго новыя словы. Купкі раставалі, збіраліся зноў, зноў раставалі, аж пакуль не ўліваліся жвавай энергічнай патокай у ветлыя дзверы піўніцы. Там новыя словы перакладаліся на грамоздкую, распараную алкаголем мужыцкую мову.

Дзе-нідзе ліпелі яшчэ дробныя прыватныя крамкі, але гандляры, як не было купцоў, не сядзелі ў шчаснай летуценнасці за непахіснаю стойкай, а выходзілі і стаялі перад дзвярмі — маркотныя і палахлівыя. Дамысны цырульнік вывесіў на дзвярах свежую, нязграбнай рукой намаляваную табліцу — «Калектыў цырульнікаў Грынберг» — і, мабыць, адчуваў сябе за ёй у поўнай забяспецы.

Апрача піўніцы, людзі збіраліся яшчэ каля кааперацыйнай сталоўкі і каля дзяржаўных устаноў. Установы абярнуліся ў людскія зборні, куды разам з бруднымі лужынамі снегавой вады наносілі мужыкі цэлае мора сваіх пільных і няпільных, вялікіх і малых, цяжкіх і лёгкіх клопатаў. Многа хто заходзіў так сабе — паслухаць, пагрэцца, паглядзець, як злуюць на назолівых наведнікаў, а злашча на пустых разявак запараныя супрацоўнікі. А іншыя прыходзілі з важным, жыццёвым, балючым — тыя або істэрычна крычалі, дамагаючыся свайго, або беспарадна вадзілі наўкола ціхімі вачмі, поўнымі пакорнага неўразумення.

У тую пару раённым працаўнікам не было ані хвілінкі адхлану.

Сымон Карызна часта наязджаў у раен — ён любіў туды ездзіць, бо кожнага разу там узнімала яго лёгкі настрой тое добрае, бадзёрае ўзрушэнне, якое загарэлася было ў ім — ды ці толькі ў ім? — на гістарычным пленуме райкома, што паклаў быў пачатак шырокай разгорнутай працы па сацыялістычнай перабудове раёна.

Тут, у сэрцы раёна, усё тое, чым жыла вёска, уся яе новая, творчая сумятня нібы абстрагавалася, вылузвалася са шкарлупы канкрэтнае дакучнае абыдзёншчыны і набывала свежую рамантычную прывабнасць. Таму Карызна, пераехаўшы цераз гнілаваты, складзены з дзіўна-рухавага бярвення масток і мінуўшы шэрую порхаўку — кузню, першы слаўны будынак слаўнага горада, заўсёды з асалодаю адчуваў, што ўсе яго трывогі, страх, уся яго мітусяніна мякка затуляецца завесай цудоўнай далечыні (нібы ад'ехаў за тысячу вёрст) і ўнутры бурна ўзмываецца разгонная, задорная імклівасць.

Карызна жыва, усім нутром адчуваў тады вялікі змест лаканічных слоў, што пераможна ззялі на старонках тагачасных газет: «Рэспубліка на паходзе!»

Уступіўшы на парог РВК, Карызна адразу пачуў зычны, раскацісты голас старшыні Рачкоўскага, які смелай камандай разлягаўся на ўсе чатыры пакоі райвыканкома, працінаючы ўсіх супрацоўнікаў, усіх наведнікаў і, здавалася, усю, якая была тут, убогую, зашмальцаваную мэблю, усе замлелыя ў тлустай неўвароткасці груды папер — працінаючы ўсё гэта імпэтнай напорнай паспешнасцю. І здавалася, што ўсё тут — і жывое і нежывое — гаварыла без слоў — выразам твараў, рухамі, паставамі — адзін кароткі, адцяты сказ: «Нам некалі!»

Знаёмы прыемны голас Рачкоўскага яшчэ больш узбіў унутры ў Сымона Карызны бадзёрае ўзрушэнне — ён наскрозь прасякнуўся тым агульным, што панаваў тут, імпэтам, той нястрымнай паспешнасцю і раптам пачуў, што і яму таксама страшэнна некалі, і хацеў таксама спяшацца, хацеў крычаць зычным раскацістым голасам — не крычаць, а камандаваць.

Ён увайшоў у кабінет нечаканым для самога сябе цвёрдым, адрыўчастым крокам вайсковага чалавека.

У кабінеце было, як у ліўніцы: людна, тлумна, накурана. Сярод рухавага натоўпу, у якім Карызна знайшоў, як і кожнага разу, ці мала новых, зусім незнаёмых твараў, крэпкім спружыністым камлюком круціўся Рачкоўскі і, здавалася, крычаў адразу, прынамсі, пяцём чалавекам — аднаго пытаючы, другому адказваючы, трэцяга некуды пасылаючы, чацвёртага проста лаючы моцнымі, але чамусьці зусім някрыўднымі словамі. Як убачыў Карызну, ён адразу кінуў усіх і праз усіхнія галовы агаласіў:

— Прэзідэнту сівецкай рэспублікі шанаванне! Што ж ты, сукін сын, не прыехаў на нараду, а прыслаў гэтага свайго Расцяроба! Даражэнькі мой, тут партыйная нарада, і нам трэба сакратар ячэйкі, а не Падцяроб. Гайдук, давай нагонку па сваёй лініі...

Побач з Рачкоўскім пры стале сядзеў спакойны, глыбакастры-

маны сакратар райкома. Карызну кінулася ў вочы, што ён — і так мізэрны, чэзлы — цяпер яшчэ больш змізарнеў і ягоны хоць і вялікі, але не надта паважны нос завастрыўся да немагчымасці.

Ціха і трошку хваравіта ўсміхаючыся, Гайдук замест прывітання запытаў такім тонам, нібы яны толькі вось перапынілі былі сваю гутарку:

— Дык пяцьдзесят працантаў? Глядзі, каб гэта стала, бо ў Мікуліне палавіна разбеглася. Як Сівец?

— Яшчэ не зрушыўся, браце. Але гэтымі днямі нешта будзе. За тыдзень, спадзяюся, будуць у калектыве.

І — дзіўная рэч! — Сымон Карызна быў цалкам упэўнены, што ён гаворыць шчырую праўду, што ў яго сапраўды ўсё нарыхтавана, усё напагатове. Яшчэ колькі дзён — і ўсё станецца так, як лепш і не трэба.

— Зелянюк памагае?

Карызна скрывіўся і ўнікліва махнуў рукой:

— Потым пагамонім...

Гэтым адразу даў зразумець, што ён Зеленюком нездаволен.

Рачкоўскі выбраў зручны момант і неўзаметку ад усіх шапарнуў яму:

— У мяне будзеш абедаць... я сёння вольны... больш-менш... Разумееш?

Карызна зразумеў і здаволена ўсміхнуўся: у сямейных абставінах, за невялічкай дружнай чаркай найлепей будзе пагаварыць аб усіх справах.

Карызна прыехаў з пэўным рашучым замерам: ён наважыўся нарэшце пагаварыць начыста з Рачкоўскім, адкрыць яму ўсе свае сумненні, увесці яго ў заблытанае кола сваіх згрызот і мітусэнняў. Пасля ўчарашняга сходу ён зразумеў, што далей так цягнуцца не можа, што яму няўзмогу ўжо жыць так і працаваць, скрозь адчуваючы над сабой дамоклаў меч небяспекі.

Хай будзе што будзе, а ён адкрые ўсё да апошняга каліва — перш яму, Рачкоўскаму, а тады, калі трэба, і ўсім.

Каму гэта «ўсім», Карызна пакуль што яшчэ як мае быць не ўяўляў — ён чакаў, што гэта само па сабе высветліцца ў гутарцы з Рачкоўскім.

...Пакуль гаспадыня завіхалася каля стала, рыхтуючы полудзень, Рачкоўскі і Карызна сноўдаліся па пакоі, абодва працятыя нецярплівасцю: Рачкоўскі — каб хутчэй дапасці да яды, а Карызна — каб хутчэй зачаць сваю шчырую споведзь. Але ткі Карызна не сцéрпеў — пахваліўся звонку нібыта спакойна, безуважна, але з прытоеным

унутры трапятаннем:

— Ты ведаеш, што я з жонкаю разышоўся?

Рачкоўскі запытаў без жаднага здзіўлення:

— Ужо?

І, весела падміргнуўшы Карызну, засмяяўся нізкім юрлівым смехам:

— Верачку падчапіў? Ну і зух! Смак маеш, няма чаго казаць... Бач ты, падла старая... га?..

Потым ён праказаў нібыта сур'езна і наўмысля гучным голасам, каб пачула жонка:

— Думаю кінуць і я сваю. Надакучыла ўжо, абрыдзела... Хачу пашукаць дзе маладзейшую, харашэйшую.

Жонка, маладзенькая, свежая і пульхненькая, як перапечка, увайшла ў пакой з троху сарамлівай, але поўнай адчування свае жаноцкае сілы ўсмешкай і, праходзячы паўз мужа, нібы несумысля зачапіла яго сваім крутым пышным клубам. Ён з грубаватай бесцырымоннасцю лэпнуў яе па неасцярожнаму месцу і здаволена зарагатаў смехам упэўненага ў сабе самца.

Гэта была ў Рачкоўскага не то трэцяя, не то чацвёртая жонка, і ён, як відаць, перажываў яшчэ з ёй пару́ першага ўзаемнага захаплення — не абсыпанага, праўда, лішне барвістымі праскамі зманлівае рамантыкі, затое здаровага і шчаслівага. У яго да жанчын быў надзіва лёгкі, незамутнёна-спакойны характар, і ягонага шчасця ані не парушала тое, што чарада папярэдніц свежае пульхненькае жанчыны часам у досыць катэгарычнай форме напамінала пра існаванне не толькі сваё, а і цэлае плоймы малых Рачкоўскіх. Ён улагоджваў свае сямейныя справы з такім дыпламатычным спрытам, што — канцы з канцамі — усе зацікаўленыя бакі былі хоць матэрыяльна і не зусім задаволеныя, але маральна цалкам уціхаміраныя. Досыць сказаць, што да судоў у яго справа яшчэ не даходзіла ні разу.

Легкі, вясёлы падыход Рачкоўскага да сямейнай трагедыі Карызны перш непрыемна ўкалоў яго, але боль ад гэтага трываў адну караценькую хвілінку. Потым стала і самому лёгка ды весела, нібы Рачкоўскага грубыя словы, а злашча ягоныя ўласныя стасункі да жанчын нейкім чынам абязвіньвалі ці, прынамсі, меншылі віну яго перад Марынай Паўлаўнай.

Адным словам, Сымон Карызна сеў за стол у добрым гуморы.

Перакуліўшы першую чарку і з цудоўным апетытам накінуўшыся на селядца, Рачкоўскі агаласіў:

— Ну, кажы, Сымоне, як там што...

Карызна пачаў здалёку — нібы выпадкова, няўмысля ўспомніў пра сваю і Рачкоўскага працу ў ранейшым раёне, пра лінію, якую яны там вялі. Гэта была ў яго свядомая ці мо несвядомая хітрасць, гэтым ён з першага кроку аднаўляў паміж сабой і Рачкоўскім ніці даўняе блізкасці, каб гарантаваць большую чуласць яго і спагаду да сваіх сучасных нягод.

Рачкоўскі зусім неспадзявана для Карызны павесялеў:

— А праўда, Сымоне, слаўна жылося там, га? Эх, каб цяпер туды... Ну і запішчалі б у мяне кулачкі... Расхутарызаваў бы іх так, што і не агледзеліся б...

Карызна нясмела напамянуў, не хаваючы свайго неўразумення:

— Але ж мы, браце, самі праводзілі там гэтую, на яе ліха, хутарызацыю!

— Правільна... Верна... Праводзілі...

З цвёрдага рашучага тону Рачкоўскага Карызна зразумеў, што ён ужо перадумаў і пераварыў у сабе гэтае пытанне і што ён мае ўжо нейкае пэўнае развязанне яго. Ён пільна настаражыўся, чакаючы дальшых слоў.

— Правільна... Праводзілі... Значыць, што? Рабілі памылковую справу... Так... Ну, а потым?

Ён зрабіў паўзу, каб выпіць чарговую чарку, і казаў далей, мерна выстаўляючы слова па слове:

— Дрэнны той майстар, што, зрабіўшы якую няўдалую шкодную рэч — ці ў памылцы, ці праз недасканалае ўмельства сваё,— будзе клапаціцца над ёй, будзе ахаць, охаць, енчыць, стагнаць... Добры майстар возьме і адным махам — без аніякага жалю — разаб'е ці разламае тую рэч і зробіць гэта з большай рашучасцю і нават злосцю менавіта таму, што гэта ягоная рэч, зробленая ягонаю рукою... Ты мяне зразумеў, Сымоне?

Карызна не мог здаць сабе справы з таго, што гэта ёсць: ці хітры сафізм, ці праўдзівая жыццёвая логіка? Адно чуў, што яно развязвае праблему, якая столькі часу гняла яго, і дае магутны стымул да далейшае працы, да выробу новых, ужо правільных, дасканалых рэчаў.

Рачкоўскі пагадліва палэпаў яго па плячы:

— Калі цябе гэта турбуе, Сымоне, кінь усе сумненні — справа ясная. Галоўнае, браце мой, зразумець, пераканацца, што ты сапраўды дрэнна рабіў. А раз ты ўпэўнены ў гэтым, дык сама рука падымецца, каб разбурыць тое няўдала зробленае, каб перарабіць на новае... Бі, Сымоне, варушы ўсё да грунту, пераварочвай, і канец...

Карызна не выходзіў з трывожната задумення. Рачкоўскі наліў

яму новую чарку.

— Ну, чаго нос павесіў? Пагонім яшчэ па адной, успомнім даўніну...

Карызна нясмела павёў далей:

— У мяне не толькі гэта, Рачкоўскі... У мяне — сямейныя справы...

— Жонка?

І Рачкоўскі нават здзівіўся, як гэта можна мардаваць сябе гэткай драбязой.

Карызна ў замяшанні паківаў галавой:

— Не ў тым... Я не ведаю... Як табе сказаць... Ну, бачыш, мне пішуць бацькі, што іх раскулачылі. Гэта — адно... А самая тут закаклюка, што кулакамі яны сталі ўласна за маёй дапамогаю — я ім і грошы даваў на гаспадарку, і парады адпаведныя... Ведаеш сам, які настрой быў тады...

Рачкоўскі ўстаў ад стала і звычайнай сваёй пругкай, развальнай хадою прайшоўся па хаце.

— Хм... так... заблытаўся ты, браце мой, залез у нерат... Выходзіць, што цябе раскулачылі? Ха-ха-ха...

І ён раптам зайшоўся ад гамерычнага смеху. Карызна глядзеў на яго разгублены: ён не ведаў, ці радавацца яму гэтым смехам, ці трывожыцца.

Рачкоўскі падышоў і энергічна, рэзка выцяў кулаком аб стол:

— Вось... На ўсё гэта ёсць адна толькі рада. Калі сілы хопіць — адным ударам... разумееш? адным ударам усё перацяць...

— Адмовіцца ад бацькоў?

Рачкоўскі раззлаваўся:

— Што ты мне прэш сваю дурную інтэлігеншчыну, га?.. Адмовіцца, напісаць трагічны ліст — бывайце, дарагія бацькі, мне з вамі не па дарозе... Цьфу, каб ты згарэў... Не аб гэтым справа, я табе кажу... Чуеш ты ці не?

— Аб чым жа?

— Во тут, во-во... у сабе. Тут трэба перацяць... Плюнуць трэба на ўсё, выкінуць усё к чортавай матары... Калі ты — сцерва, скажам, дык гэта яшчэ паўбяды. А калі ты сцерва ды яшчэ кожную хвіліну думаеш пра тое, што ты сцерва, смакуеш гэта, упіваешся гэтым, дык ты тады — дзве сцервы... Чуў?.. Забудзься на ўсё чыста, я табе кажу... Сам забудзься, што ты — сцерва, дык і людзі забудуцца. Працуй як след, пераварочвай жыццё, дык і сам перавернешся... Разумееш ці не?

І зноў Карызна не ведаў, ці гэта — хітры езуіцкі манеўр, ці

простая праўдзівая дарога наперад. Але зноў чуў у гэтых словах магчымасць шчаслівага выйсця з сваіх цяжкіх неўразуменняў.

Раптам ён успомніў пра апошні бацькаўскі ліст.

— Яны просяць, каб прыслаў ім грошай.

Пры слове «грошы» Рачкоўскі дасадліва пачухаў патыліцу і, з апаскай азірнуўшыся наўкола — ці няма дзе паблізу жонкі? — пракрактаў:

— Грошы... Каб на іх ліхалецце... У мяне ўсе жонкі як адна просяць грошай... былыя жонкі, вядома... Проста рады не дасі...— Ён зноў раззлаваўся і закрычаў: — Што ты — грошы? Чаго ты лезеш з грашмі? Сцерва ты, калі хочаш... Кажу — забудзься на ўсё... Адным ударам... рраз... перасячы ўсё, разумееш? Тады сам убачыпп, што рабіць з грашмі... Само пакажа тады... Во тут, во-во... тут самае галоўнае...

І ён без лішняе далікатнасці тыркануў Карызну ў грудзі. Яму, відаць, надакучыла гэтая гутарка, і ён, сеўшы зноў за стол, запытаўся:

— Ну, што ў цябе там у Сіўцы?

Тады Карызна — ужо зусім з лёгкім вальготным настроем — стаў апавядаць пра сівецкія падзеі. Ён гаварыў усё да найменшай драбніцы, не хаваючы ні сваіх удач, ні сваіх памылак. Ён стараўся асвятляць усё шчыра і па магчымасці аб'ектыўна — нават і прыкры інцыдэнт з Зеленюком, і апошні бурны сход ячэйкі, і свой ганебны правал. Але такая ўжо, мабыць, людская ўрода, што трудна бывае чалавеку ўстрымацца, каб не зрабіць сабе ў зручным выпадку некаторае — можа, і мімавольнае — пратэкцыі. Таму і выходзіла так, што Сымон Карызна, сакратар ячэйкі, усе свае сілы кладзе на тое, каб наладзіць як след работу, часам, пэўная рэч, і памыляецца, але ў грунце вядзе цалкам пэўную, правільную лінію, а Зелянюк, скажам, хоць і нядрэнны хлопец, але малады, гарачы, заядлы — дык ён усё-ткі шкодзіць у рабоце і заводзіць спрэчкі, звягі, раскладае ячэйку... Алё Сымон Карызна пераможа ўсе гэтыя перашкоды і ў сваім сельсавеце не па доўгім часе правядзе поўную стопрацэнтную калектывізацыю.

Рачкоўскі слухаў, утупіўшы нос у талерку, і пацíху муркаў сабе пад нос нешта невыразнае.

## 11

Палазы рыпелі з такой ціхамірнай спакойнасцю, што зусім знікала ўсякае адчуванне шпаркага руху і пачынала здавацца, нібы санкі даўно ўжо стаяць, загрузнуўшы ў цемры, недзе пасярод шырокага снегавога поля і адно пад напорам ветру млява калышуцца

на месцы і сціху пакрэктваюць ад натугі — нездаволеныя, але дабрадушшыя.

Сымону Карызну давала цудоўную асалоду гэтае адчуванне. Руху ў яго досыць было ўсярэдзіне — лёгкага, салодка-павеўнага,— і глыбокі навакольны спакой, мякка атуляючы гэты рух, не даваў разлятацца яму ў прасторы, стаўпляў яго ўнутры, абарачаючы ў пругкую сакавітую радасць.

У прыемна абвеенай хмелем галаве бясконцым плаўным калаўротам перасувалася чарада парваных і ў смешным бязладдзі прыточаных адзін да аднаго вобразаў: вобразы людзей чаргаваліся з вобразамі слоў, з вобразамі зусім абстрактных, але цяпер дзіўна-жывых, рэальных уяўленняў. За сарамлівай усмешкай свежае пульхненькае жанчыны непасрэдна ішоў раскацісты голас Рачкоўскага, з-за якога вызірала, дражліва падміргваючы, подлая грымаса хутарызацыі. Потым усё гэта адкідаў некуды ўбок хмуры ўдар кулаком аб стол і следам за ім, як па сігналу, ішло настойнае, неадступнае халодна-бліскучае — «адным ударам». І ўсё разам — і добрае і дрэннае, і прыемнае і прыкрае — было цяпер роўна ахінута тонкім барвістым туманам і роўна цешыла сэрца чароўнай цеплю.

Гэта не было звычайнае ап'яненне — гэта быў поўны бяздонны адпачынак усяе змардаванае жорсткімі нягодамі жыцця істоты, якая нарэшце знайшла сабе жаданы супакой. Гэта была поўная безумоўная пагоджанасць з усім, што дасюль паўставала на жыццёвым шляху вострарожымі супярэчнасцямі.

Сапраўды, у гэтыя часіны Сымону Карызну ўсё падавалася ў ружовым святле ціхамірнае згоды: усе нядаўнія спрэчкі, калатня, уся яго дзікая злосць, усе балючыя трывогі і страх— усё гэта абуджала цяпер адну іранічна-пагадлівую ўсмешку, як пустыя дзіцячыя забаўкі, як выкліканыя імі мімалётныя лёгкія крыўды. Усё гэта расплывалася наперадзе, знікала ў ружовых яснотах яшчэ не зусім выразнае, але прывабнае будучыні.

Раз-пораз лёгкаю патугаю волі Карызна сунімаў млявую плынь цудоўна пераблытаных барвістых вобразаў, каб у скупчанай на момант свядомасці перабраць нізку думак, на якіх грунтавалася яго новае незамутнёна-чыстае самаадчуванне. Ён рабіў гэта не таму, што былі ў яго якія-небудзь сумненні, няўпэўненасць, не — ён хацеў лішні раз адчуць законную непахісную моц свайго жыццёвага апраўдання. Так упэўнены ў сваім багацці скнара раз-пораз перабірае свае поўныя скрыні, каб лішні раз адчуць сваю багатырскую сілу.

Усё, вядомая рэч, было ў належным парадку. Строгая непадкупная логіка даводзіла поўную рацыю выказаў Рачкоўскага.

Галоўнае — у самім сабе. Трэба перш-наперш адным ударам перацяць у сабе ўнутры ўсе сувязі з старым — трэба вызваліцца ад яго маральна. І тады само па сабе развяжацца ўсё. Адным ударам...

І Сымону Карызну здаецца, што ён ужо зрабіў гэты «адзін удар», што ён ужо перарваў у сабе ўсе ніці, якія вязалі яго з мінулым, тое праклятае вязьмо, што з бязлітаснай павольнасцю сціскала яго ў сваім шчытным непарыўным коле. Пэўна, што так, бо адкуль жа была б у ім гэтая ўздымная лёгкасць, гэтая свабода, гэтае даўно ўжо згубленае ім у жыцці адчуванне поўнае волі, поўнае маральнае незалежнасці?

Каб канчаткова пераканаць сябе, Карызна кідае мыслёвы погляд назад, у мінулае,— і яно выглядае з далечы туманнае, няяснае, чужое, і замест сябе ён бачыць у ім зусім іншага, малазнаёмага чалавека — дурнога і агіднага.

Тады цалкам упэўнены і заспакоены, Карызна бязрупатна кідае свае разважанні і акупаецца ў мякка-калыхлівую плынь бяздумнага сузірання.

Палазы рыпяць з глыбокай ціхамірнай спакойнасцю, і загрузлыя ў цемры санкі стаяць недзе сярод бязмежнага поля, пакрэктваючы пад напорам ветру — нездаволена, але дабрадушна. Карызна ўпінае ў мяккую цемру невідушчы застылы погляд і ўяўляе сабе — як любіў рабіць калісьці ў дзяцінстве — далёкую, бясконцую дарогу, якая вядзе яго, самотнага падарожніка, у невядомы чароўны край, у невядомае казачнае жыццё. Ён пачынае смешна, па-дзяцінаму летуцець, паволі акунаючыся ў ліпучую дрэму.

За вярсту перад Сіўцом вознік абудзіў яго гучным, звонкім ад марозу воклікам:

— А зараз ужо і Сівец!

І з гэтым воклікам скончыўся поўны, бяздонны адпачынак Сымона Карызны.

Сівец уварваўся ў нутро ў яго надзіва вясёлым, радасным уздымам. Карызна здаволена канстатаваў, што ўжо даўно не ўязджаў з такім добрым настроем у свой глухі, непрыветны Сівец.

Ён уязджаў сёння ў Сівец як пераможца. І гэта адчуванне свае перамогі (над сабой, над мінулым, над сучаснымі нягодамі) узбаламуціла яго глыбокі чысты спакой. Уваччу ў яго замігцелі яскравыя спакуслівыя карціны доўгачаканага трыумфу. Ён быў упэўнены ў сабе, ён чуў сваю сілу, і гэтая сіла патрабавала сваіх законных праў, напаміналa пра сваё законнае задавальненне.

Што бліжэй пад'язджалі да Сіўца, то ўсё гусцейшым натоўпам абкружалі Карызну вобразы сівецкай абыдзёншчыны. І цяпер ужо яны не пужалі яго, не кідалі ў чорнае беспрасветнае мітушэнне — ён

адчуваў сябе сярод іх, як гаспадар у сваёй гаспадарцы, як камандзір сярод вернага слухмянага войска. Яго дзівіла цяпер тая нерашучасць, нясмеласць, з якой ён абарачаўся дасюль у блытаным коле сівецкіх падзей, ён саромеўся свае мімавольнае мяккасці і падатнасці. І гэтай дрэннай мяккасцю пачынаў ён тлумачыць усе няўдачы, што апошнім часам спасцігалі яго на кожным кроку ягонай работы.

— Трэба ўсё павярнуць на інакшы лад.

І ў меру таго, як выляталі з нутра ў Карызны апошнія рэшткі яго нядаўняе пагоджанасці з вострымі супярэчнасцямі жыцця, яго ірніч-на-пагадлівага погляду на ўсе тыя спрэчкі, на ўсю калатню, на бязладдзе,— да яго пэўнай уладнай ступою варочалася яго старая, на хвіліну прыціхшая злосць, ведучы з сабой новага не менш заядлага свайго таварыша — прагнае жаданне помсты. Гэтая злосць была страшнейшая, чымся была дасюль, бо за ёй стаяла цяпер адчуванне сілы, упэўненасць у ёй.

Такі вярнуўся быў Сымон Карызна з свае паездкі ў раён.

Была ўжо, мабыць, дзесятая ці нават адзінаццатая гадзіна, як яны ўехалі ў Сівец. Праязджаючы паўз пачатковую школу, Карызна ўбачыў у знаёмым акне прыветны агоньчык і спыніў возніка:

— Чакай, я тут злезу. Едзь сабе дахаты.

Возік спыніўся з такой гатоўнасцю, нібы і сам так меркаваў, што тут трэба злезці, і

Карызну чамусьці гэта ўпадабалася.

У Веры Засуліч дзверы былі не завалены — нехта яшчэ быў у яе. З кухні пачуў Карызна гамзатае брынканне гітары і скрывіўся ў лёгкім нездаволенні. Ён скінуў на кухні сваё вялікае ездавое футра і паляпаў у дзверы. Звонкі, чысты, як крышталь, галасок Веры Засуліч працяў нутро яго цёплай радасцю.

— Калі ласка! Заходзьце!

Адчыняючы дзверы, Карызна чамусьці ўспомніў грубыя словы Рачкоўскага: «Верачку падчапіў? Ну і зух! Смак маеш, няма чаго казаць...»

І, успомніўшы гэтыя словы, здаволена ўсміхнуўся.

У Веры быў Андрэй Шыбянкоў. Ён сядзеў ля грубкі, эфектна заклаўшы нагу за нагу, нядбайна, знехаця перабіраў струны гітары і таямніча блішчаў у куток сваімі чорнымі загадкавымі вачмі.

Здаецца, не было нічога асаблівага ў тым, што Андрэй сядзеў у Веры Засуліч, брынкаў на гітары і блішчаў вачмі, тым часам Карызна адразу адчуў мімавольную няёмкасць. Яна яшчэ больш замацавалася ў ім, як па ягоным уваходзе Андрэй — мабыць, з простае далікатнасці — адразу пайшоў, каб пакінуць іх з Верай адных. Карызну здалася

гэтая далікатнасць занадта паспешнай, падкрэсленай.

Вера пайшла зачыніць за ім дзверы і зараз жа, вярнуўшыся назад, падышла да Карызны, з дзелавітай стараннасцю прыгатаваўшы вусны да пацалунка, і з разгону павісла ў яго на шыі.

Карызна ў бурныя пяшчоты пераліваў сваё, прывезенае з раёна, узрушэнне. Яна ўважна прыгледзелася да яго, міла прыжмурыла свае цёмныя бяздонныя вочы і запытала з прыемным здзіўленнем:

— Ты вясёлы?

Яму хацелася адразу, у адным слове выліць ёй усё, што бушавала ў яго ўнутры, што рвалася з нутра нястрымана-напорным імпэтам. Але як пачаў шукаць гэтага слова, дык раптам убачыў, што ў яго фактычна няма пра што і гаварыць. Нічога ж і не было такога выдатнага, асаблівага. Наогул, нічога не было. Што ён гутарыў з Рачкоўскім? Што той супакоіў яго? Дык такое ж самае супакаенне мог ён знайсці кожны дзень і тут, не ездзіўшы нават у раён. Праўда, гэта ані не змяншае яго радаснага ўздыму, яго новае ўпэўненасці ў сабе. Але як ён растлумачыць гэта? Пра што расказаць ёй?

Каб схаваць сваё мімавольнае замяшанне, ён запытаў яе ў наўмысна вясёлым бязрупатным тоне:

— Ну, што ў вас тут было цікавага за гэты дзень?

Яна дражліва прыцмокнула языком.

— Ого... Было... Ды яшчэ якое цікавае... Сказаць ці не сказаць?

І, вытрымаўшы паўзу, каб распаліць у ім большую цікавасць, нарэшце пахвалілася:

— У нас быў сёння жаночы сход... І ведаеш, што мы пастанавілі? Арганізаваць калгас...

Карызна папраўдзе здзівіўся:

— Хто гэта «мы»?

— Ну, мы...

— Бабы?

І Карызна з кплівай грубасцю зарагатаў. Вера прыкінулася, што злуецца.

— Смяецца... А мы напраўду. І не адны бабы, а ў нас і мужчыны будуць. Ужо больш як дваццаць гаспадароў згодны пайсці разам з сваімі кабетамі... Во...

Карызна ўраз суняў свой смех.

— Я ведаю, гэта зноў Зеленюкова работа.

Вера таксама кінула сваю ўдаваную злосць і зашаптала з змоўніцкай таемнасцю:

— Яго не было там, але гэта праўда, што ён. Я ўжо ведаю... Гэта Таццяна Шыбянкова надумала, а яна ўсё чыста робіць, што ён ёй

скажа. І Андрэй казаў, што ён кожнага дня ходзіць да яе — усё згаварваюцца аб нечым. І наогул яны...

Але тут яна засаромелася і, кінуўшы на Карызну быстры выразлівы погляд, надзвычай міла пачырванела. Карызна цвёрдымі рашучымі крокамі хадзіў па пакоі.

— Гэтага ўжо больш не будзе. Досыць...

Вера з хвіліну глядзела на яго поўнымі нясмелай павагі вачмі, а тады раптам насупіла броўкі, сабрала вусны ў нездаволеную грымасу і загаварыла пакрыўджаным голасам:

— Праўда што... Робіць усё, што хоча, нібы ён тут начальнік нейкі... Раз ён прысланы пад твой загад, ён павінен усё рабіць так, як ты яму скажаш...

Карызну зноў закарцела выліць ёй свой новы настрой, растлумачыць ёй, што цяпер ужо будзе іначай, што ён зусім не так, як дасюль, паставіць сябе, што ён цяпер пэўны і смелы, што ён не баіцца нікога. І зноў не было адпаведных слоў, зноў не мог знайсці нічога канкрэтнага, рэальнага, з чаго можна было павесці гаворку.

Ён адчуваў, што Вера не ўпэўнена ў ягонай рашучасці, сумняваецца ў ёй. І ён чуў таксама, што ёй гэта непрыемна, крыўдна, што яна хоча, каб ён быў інакшы — смелы, рашучы, мужны, каб ён быў хоць трошку герой.

Яму стала страшна. А што, калі ён сапраўды не такі, якога яна хоча, калі ён не можа, не здольны зрабіцца такім? Ці будзе яна кахаць яго, слабога, нерашучага, палахлівага? Ці будзе яна кахаць яго, зломленага, пераможанага жыццём?

І тут упершыню паўстала перад ім ува ўсёй сваёй жорсткай няўхільнай прастаце пытанне: ці кахае яна яго наогул? Ён толькі цяпер уздумаў, што яны дасюль яшчэ не сказалі адно аднаму гэтага традыцыйнага, задрыпанага і ўсё-ткі такога патрэбнага, неабходнага слова — «кахаю».

Чамусьці ўсплыў уваччу прыгожы, таямніча-загадкавы і надзіва самаўпэўнены твар Андрэя Шыбянкова, і яму здалося, што на гэтым твары акурат ляжыць пячатка таго геройства, якога шукае Вера і якога няма ды і, пэўна, не будзе ў яго самога.

Унутры ў Карызны займалася хмара новага, дасюль нязнанага непакою.

Вера Засуліч з шчырай трывогай сачыла за ягоным настроем. Яе чулы жаночы інстынкт падказаў ёй найзручнейшы момант, калі прыйсці на дапамогу яму з сваё'й мілай, салодкай ласкай. І якраз тады, як занялося ў ім гэтае новае прыкрае пачуцце, яна кінулася да яго, моцна, па-дзяцінаму абшчапіла рукамі і, прытуліўшыся да яго

ўсім сваім маленькім стройным целам, прашаптала:

— Не трэба! Не сумуй!..

Ён узяў у абедзве рукі яе галаву і, адхіліўшы ад сябе, глядзеў ёй у твар настойным пранікльм поглядам:

— Ты кахаеш ці не?.. Ты папраўдзе кахаеш?.. Скажы, кахаеш?..

Яна ўпершыню бачыла яго такога моцнага, трагічна-жорсткага, і ён ёй упадабаўся. Таму яна зусім шчыра, з чыстым сумленнем адказала яму:

— Ну, кахаю ж, вядома, кахаю... Ці ты не бачыш сам?

І, вырваўшы з ягоных рук сваю галаву, яна парыўчата схавала на грудзях у яго апалены раптоўнай чырванню твар.

Цяжка сказаць, ці знайшоў Карызна сабе жаданае заспакаенне ў гэтым Верыным прызнанні. Праз увесь той вечар ён з нейкай надрыўнай прагнасцю шукаў яе ласкі, быў дзіўна настойлівы, ненасытны, быццам няўпэўнены ў заўтрашнім дні, спяшаўся як мага болей зазнаць поўнага, неабмежаванага шчасця.

Галілей ткі праўду казаў некалі Марыне Паўлаўне, што стары дурней за маладога хлопца кахае...

Астаўшыся нарэшце адна, Вера Засуліч — дарма што была позняя пара,— яшчэ доўга сядзела ў глыбокай задуме. На яе прыгожым твары, яшчэ хвіліну таму насычаным гарачай пяшчотай, цяпер ляжаў выраз сухой халоднай заклапочанасці, нібы развязвала яна трудную і страшэнна дакучную задачу. Потым, пакорна ўздыхнуўшы, яна з нязменнай сваёй рупнасцю і стараннасцю ўзялася парадкаваць у хаце і доўга з цёплым замілаваннем ладзіла на ноч сваю свежую, непарушна-чыстую, як сама яна, пасцелю.

Ужо напаўраздзетая, яна падышла да люстэрка і з хвіліну разглядала сябе ўважлівым, дапытлівым вокам. Светлая ўсмешка, якая мякка кранула яе чароўныя вусны, паказала, што Вера Засуліч сабой цалкам здаволена.

## 12

Праз два дні пасля гэтага брыгадзір Зелянюк атрымаў з раёна паперку, у якой яму прапанавалі зараз жа пераехаць на працу ў другі сельсавет. У той самы дзень позна ўвечары, адбыўшы ўсе свае не вельмі багатыя перадвыязныя клопаты, Зелянюк зачыніўся ў сваім пакоі, у чыстай палавіне хаты сівалапаўскага селяніна-серадняка Малаха Загароўскага, і пісаў ліст у горад, да свае дзяўчыны, адкрываючы ў ім усю глыбіню свайго новага настрою.

Вось гэты ліст.

«Любая мая, дарагая Стася!

Уяві сабе стан чалавека, які разам з іншымі працуе на пабудове новага, цудоўна-прыгожага, яшчэ нідзе не бачанага дасюль будынка і якога акурат у той момант, як з шэрае масы матэрыялу пачынаюць ужо вырысоўвацца так доўга, так напружана чаканыя формы, забіраюць з гэтае работы, адрываючы ад найцікавейшага моманту яе творчага завяршэння.

Такі прыблізна стан цяпер у мяне. Але — ты ведаеш, Стася,— не ў маім характары наракаць, енчыць, выказваць нездаволенне. Я проста канстатую факт.

Мяне ў самым гарце работы, у момант яе бясспрэчнага наладжвання перакідаюць у другі сельсавет. Гэта — справа нашага сакратара ячэйкі, яго сяброўская мне паслуга...

Нашыя стасункі з гэтым чалавекам, пра якога я пішу табе бадай у кожным лісце, дайшлі да свайго крайняга пункта. У нас з ім выбухнуў адкрыты канфлікт, у выніку якога ён кінуў мне рэзкае абвінавачанне ў групоўшчыне, фракцыйнасці, пагражаючы «арганізацыйнымі вывадамі». Але, мабыць, трапіўся яму пад руку лягчэйшы і прасцейшы спосаб пазбыцца мяне — і вось яго вынік. Я, шчыра сказаўшы, чакаў такога канца, бо бачыў, што я замінаю яму, што мая прысутнасць чамусьці цяжарыць яго, нібы звязвае яму рукі. Я чакаў, што ён захоча вызваліцца ад мяне, але не думаў, што гэта будзе так раптам і так проста.

Дзіўны гэта, Стаська, чалавек, папраўдзе... Ён больш цікавіць мяне, чым абурае. Я ўпэўнены, што ў яго ёсць унутры нейкі захаваны гнёт. І гэты гнет неадступна мучыць яго, вострым ражном укліняецца ўва ўсё ягонае жыццё. Я перш думаў, што гэта — сямейная трагедыя (з жонкай ён ужо разышоўся і гэтым, я ўважаю, зрабіў ёй вялікую паслугу), потым я ўпэўніўся, што і сямейныя ягоныя справы, калі не цалкам, дык, прынамсі, у значнай меры — вынік яго захаваных згрызот.

Я наўмысля пайшоў быў сёння да яго развітацца. Ён сустрэў мяне з хмурай суровасцю, за якой не зусім умела схаваў свае замяшанне, калі не сказаць — сорам. Я паказаў яму паперку з раёна, і ён памкнуўся быў здзівіцца, але ў яго гэта не выйшла. Я мімаволі засмяяўся і страшэнна раззлаваў яго гэтым, але ён зараз жа авалодаў сабой і нават павесялеў. Мы ў шчырым сяброўскім тоне пагаварылі пра далейшы лёс тутэйшых спраў, і на развітанне ён, не хаваючы свае радасці, зычыў мне ўсяго найлепшага і прасіў не парываць сувязі з іхняй ячэйкай, хоць на твары ў яго была шчаслівая ўпэўненасць, што ён больш мяне не ўбачыць. Ён, небарака, не , ведае таго,

што, і працуючы ў другім сельсавеце, я ўсё роўна не буду спускаць яго з вока, што я маю на гэта пэўныя свае прычыны...

Чакай, Стаська, во што яшчэ... Ты магла падумаць, што я еду з такім спакойным сэрцам таму, што сапраўды адчуваю сябе вінаватым, што я ўцякаю ад пакарання. Любая Стася, калі ты гэтак падумала ўжо, дык глыбока мяне пакрыўдзіла. Я, праўда, рабіў некаторыя — і немалыя — памылкі ў рабоце, але каб я чуў хоць найменшую рацыю ў тых папраўдзе жудасных абвінавачаннях, якія ўзвёў супроць мяне сакратар ячэйкі, я б, дай веры, не паехаў адсюль да высвятлення справы. Я еду таму, што ўважаю гэта за несур'ёзнае, за вынік яго гарачага і, праўду сказаць, не зусім законнага гневу, выкліканага тым, што на партыйным сходзе прайшла не яго, а мая прапазіцыя. Я, вядомая рэч, мог бы пратэставаць, мог бы ўзняць цэлы гармідар — у мяне адзін момант і была такая думка, але потым я рашуча адкінуў яе і пастанавіў ехаць. Усё-ткі справа гэта не прынцыповая, траціць на яе энергію ў такі напружаны момант неразумна і нават злачынна. Апошні, дарэчы сказаць, надзвычайны, не па-тутэйшаму бурны сход нашае ячэйкі гарантуе правільны шлях у далейшай рабоце, а хто яе будзе весці — ці ж гэта не ўсё роўна?

Так, гэта, вядомая рэч, усё роўна, і я мушу ехаць без доўгай развагі і думаць адно пра тое, як брацца за новую, безумоўна, не менш цікавую і пладатворную, чымся тут, работу.

Так я разважыў і так пастанавіў. Заўтра я еду... Вось, напісаўшы гэтыя словы, я паспрабаваў прыслухацца да сябе, да сваіх адчуванняў, і – нашто маніць? – я пачуў, што мне цяжка, невымоўна цяжка ехаць адсюль. Я палічыў сёння дні, колькі перабыў я ў гэтым мястэчку, і надзвычайна здзівіўся, калі выйшла, што я жыву тут усяго адзін месяц. Я так шчытна ўплёўся ў тутэйшае жыццё, што мне здаецца, нібы я тут і радзіўся. А ведаеш, Стася, чаму гэта? Па-першае, таму, што наогул час цяпер поўна насычаны зместам, што дзень пераварочаецца ў месяц, а месяц у год. А па-другое – гэты месяц быў мне новым праясненнем, новай – глыбокай і напружана-дзейнай жыццёвай школай. А ты ведаеш, як прывязваецца чалавек да таго месца, да таго асяроддзя, у якім праходзяць хвіліны яго найбуйнейшага росту?

Слаўная, любая Стаська! Ты не можаш сабе ўявіць, як я рад, што мне давялося сюды паехаць, што перад маімі вачмі і з маім непасрэдным удзелам праходзіць гэты вялікі гістарычны рух, які будуць некалі мо ўспамінаць нароўні з найвыдатнейшымі старонкамі людской гісторыі, нароўні з найслаўнейшымі і наймагутнейшымі рэвалюцыйнымі штурмамі! Я рад, што ўбачыў самае нутро, самую

глыбіню гэтага цудоўнага працэсу пераробкі нашае дзікае, чорнае, бязглуздае вёскі. Я не толькі пазнаў – я адчуў тут усім нутром з агнёва-яснай выразнасцю ўсю неабходнасць гэтае пераробкі і немінучасць яе. Апрача таго – і, можа, затым – мне асабліва цяжка адсюль выязджаць: я тут спазнаўся з праўдзівымі героямі гэтае новае рэвалюцыі – з простымі, звычайнымі людзьмі, якія сваёй сціплай, непрыметнай адданасцю новай справе даводзяць яе арганічную зрosласць з бядняцкаю масаю вёскі. Я не маю цябе, Стаська, агітаваць за калектывізацыю, але мне хочацца толькі адзначыць, што насупар усякім варожым плёткам усё лепшае, прагрэсіўнае ў вёсцы, што не атручана да грунту тупымі ўласніцкімі інстынктамі ці не абдурана кулакамі, ідзе за намі. Гэтыя людзі не ходзяць з чырвонымі сцягамі і не крычыць: «Даёш суцэльную калектывізацыю!» – іншы, пагаварыўшы з ім, дык зусім пакажа нібыта поўную безуважнасць ці недаверлівасць. Але гэта – надворнае. Досыць разварушыць троху яго, раскатурхаць, узняць заляжалую, зацвілую ўжо, але багатую ў сваёй натуры творчую яго ініцыятыву, і ён пакажа дзівосы.

Завяліся ў мяне тут, Стаська, і асабліва блізкія прыяцелі, з якімі я, пэўна, і па ад'ездзе не спыню сяброўскіх стасункаў. Іх трое, і ўсе абсалютна розныя людзі. Першы – былы партызан і чырвонагвардзеец, трагічна разбіты змаганнем, хворы, але з дзіўна свежым пачуццём і чыстым імклівым розумам. Другі – камсамолец, мілы хлапчук, па-юнацкаму непасрэдны, просты і шчыры. І нарэшце трэці... адна жанчына...

Каб ты, хітрая, дрэнная Стаська, хоць трошачку менш была ўпэўнена ў маім каханні, ты магла б зайздросціць да гэтай жанчыны. Я яе «выкапаў» выпадкова і магу з законным гонарам пахваліцца, што з маіх рук яна стала свядомым грамадскім чалавекам.

Яна досыць прыгожая, па-жаноцку прыемная, вабная, але, апрача таго, разумная і надзвычай чулая. Тое, да чаго мне даводзіцца прыходзіць праз цэлы гушчар лагічных разважанняў, яна бярэ сваім вострым інстынктам і рэдка калі памыляецца. Яна глыбока ведае вёску ці, правільней, адчувае яе, асабліва яе жаночую палавіну. З яе будзе – ды і ўжо ёсць – добрая грамадская працаўніца.

Я не ведаю, у якой меры гэта можна, як кажуць, запісаць у актыў майго мужчынскага гонару, але трэба сказаць, што ад'езд мой зрабіў на яе чамусьці асабліва цяжкае ўражанне. Яна — ці толькі прачула пра гэтую навіну, адразу прыбегла да мяне — здзіўленая, ашаломленая — і запытала з крыўдай у голасе: «Ты нас пакідаеш?» Я паспрабаваў неяк пажартаваць, пасмяшыць яе, але гэта не зрабіла на яе ніякага ўплыву. Яна з хмурай упэўненасцю, скрозь якую

прабіваўся балючы дакор, заявіла: «Цяпер у нас нічога не выйдзе». Я зноў смяяўся, кпіў з яе змрочнага вешчавання, з яе бязверыцы і нарэшце раззлаваў яе. Яна з едкай горкасцю ўпікнула мяне: «Табе пэўна што смешкі... Ты паехаў — і ўсё тут, а што ў нас тут будзе цяпер...» І, каб паказаць, што гэта ў яе не пустыя бабскія прадчуванні, яна аўтарытэтна дадала: «Я ўжо добра знаю сваіх людзей... Нічога не будзе... Усё скуламесіцца...» Яна супакоілася толькі тады, як мы ўмовіліся, што будзем з ёй перапісвацца і што я, як і дасюль, буду з пільнай увагай сачыць за тутэйшымі справамі.

На развітанне — злуйся ці не злуйся, Стаська,— а мы з ёй шчыра, па-сяброўску пацалаваліся.

Гэта была апошняя мая акцыя ў гэтым мястэчку. Цяпер ужо глухая позняя ноч. У мяне ўсё гатова, і праз якіх колькі гадзін пад'едзе падвода. Я наўмысля сказаў, каб прыехаў досвіта, каб не ехаць к відну — гэта мая паблажлівая ўступка сваёй слабасці.

Я не ведаю, ці патраплю хоць з гадзіну заснуць, бо ўнутры ні на момант не спадае нервовае ўзрушэнне, у якім цяжка сказаць, што пераважае: ці жаль па мінулым, ці радасць сустрэчы з новым, невдомым і цудоўна-прывабным?

Але мне і не хочацца спаць. Гэтыя апошнія ціхія, засланёныя глухой ноччу гадзіны я перабуду з табой, бо я так жыва, так горача адчуваю цябе, нібы ты і сапраўды прыйшла да мяне, мая дарагая, родная, да немагчымасці любая Стаська...»

Далей у лісце ішло ўжо align рознае нестасоўнае: глупства, якое толькі можа верзці хлопец у дваццаць ці троху болей год, горача, прагавіта закаханы ў сваю дзяўчыну. Бо Зелянюк, хоць і паказваецца ў гэтым апавяданні як цалкам станоўчы, мала не ідэальны герой сучаснасці, але і ён, як кожны жывы чалавек, меў свае слабасці.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### 1

Цімафей Міронавіч Гвардыян сядзіць на сваім адумысловым троне і маленькаю чарачкаю п'е нарзан. Яшчэ з найяснейшае пары свайго перабывання на пасадзе кур'ера высачайшай камісіі па такіх-та і такіх-та справах абсмакаваў Цімафей Міронавіч гэты цудоўны шляхетны трунак і ўжывае яго ў хвіліны найвялікшых уструшэнняў свае чулае далікатнае душы. Мабыць, з асаблівае пашаны свае да гэтага трунку ён заве яго не «нарзан», а больш гучнаю і рамантычнаю назваю — «тарзан» і, глыбока ўпэўнены ў яго жыватворнай моцы, п'е

яго, як гарэлку,— размашыста, зухавата — і адчувае пасля яго лёгкае прыемнае ап'яненне.

Але сёння чамусьці «тарзан» не бярэ сілы. Цімафей Міронавіч выпівае ўжо пятую ці шостую чарку і адно чуе, як цудадзейны трунак асядае ў жываце халодным нязрушным цяжарам, не даючы нутру жаданага разгарачэння. Такі зварот справы Цімафея Міронавіча нават пужае, і ён з падазронай уважлівасцю разглядае пляшку, шукаючы ў ёй прычыны дзіўнага з'явішча. Ён успамінае, што гэтая пляшка адкаркована з тыдзень таму, калі не болей, што яна магла дасюль вычхацца, і пасля доўгіх ваганняў, здаўшыся на тое, што сёння выключны па сваёй трывожнасці дзень, адважваецца на рашучы, блізкі да самаахвярнасці ўчынак: не дапіўшы пачатае пляшкі, распачаць новую.

Як зазвычай, Цімафей Міронавіч устае з свайго трона з наўмыснай млявай цяжарнасцю, якая, на яго думку, дае чалавеку асабліва станавіты выгляд, але раптам чуе, што яму і сапраўды цяжка ўстаць з крэсла. Тады ён сядае назад і ўстае ўдругае — ужо скоранька, без станавітасці. Здаецца, нішто... Троху заспакоіўшыся, ён бярэ недапітую пляшку «тарзану» і падаецца да дзвярэй у чорную палавіну хаты, але па дарозе наўмысля трапляе вокам у вялікае люстра ў кутку і, збянтэжаны, сунімаецца на паўкроку.

З люстэрка на яго глядзеў мізэрны, змардаваны і — што асабліва ўразіла яго — перапалоханы чалавечак. Голы пергамінавы твар пасінеў, завастрыўся і выцягнуўся не проста ўдаўжыню, як такі і належыць у падобных выпадках людскому твару, а наўскасяк, накшталт старой, перахіленай набок драбіны. Усё было крывое: вострая барада драпежна накіроўвала ўбок сваю дзюбку, тонкія апруцянелыя вусны разышліся туга сашчэмленымі куточкамі — адным угару, другім уніз, вока адно было куды меншае за другое, і нават касцяны гузаваты лоб і той нібыта блішчаў адным сваім гузам ясней і сіней, чым другім.

Твар быў жудасна непрыгожы і страшны.

Цімафей Міронавіч доўга ўзіраўся ў люстэрка з тупым неўразуменнем, пакуль не суняўся разбеглымі думкамі на заспакойлівым тлумачэнні.

— Ужо другую ноч вокам не звёў.

Ён паціху абмацаўрукою твар, нібы хацеў паправіць яго, надаць яму звычайную форму. Потым паспрабаваў сам сабе ўсміхнуцца, і, калі ўсмешка выйшла досыць прыстойная, ён пачуў, што сякая-такая сіла ўсё-ткі ў ім ёсць. Яму закарцела тады як-небудзь паказаць гэтую сваю сілу — зараз жа, неадкладна праверыць дзейснасць яе на якім-

небудзь аб'екце. Замест таго каб ісці па нарзан у чорную хату, ён вярнуўся назад, зважна асеў у сваё пышнае крэсла і, цішком адкашляўшыся, крыкнуў гучна і валадарна:

— Матрёна!

На яго вялікае дзіва, адказу не пачулася. Ён ведаў, што жонка ў хаце — толькі вось чуў ён яе гаспадарчую там мітусяніну,— і ен крыкнуў яшчэ больш гучна і валадарна, дадаўшы ў голас пэўную дозу законнага гневу:

— Матрёна!

Зноў ані гуку.

Цімафей Міронавіч з хвіліну сядзеў нерухома, з глыбокім здзіўленнем і трывогаю ўслухваючыся ў зманлівую цішыню.

Няўжо ён не пачуў, як яна выйшла?

Гэта не можа быць. Ён не мог не пачуць. Ён лацвей мог прапусціць міма вуха гук раптоўнага стрэлу ці незвычайны сярод зімы ўдар перуна, чымся хоць найцішэйшы бразгат дзвярэй. Бо ж ён ужо трэція суткі з нечалавечай напружанасцю чакае гэтага страшнога, фатальна-немінучага бразгату. Ён чакае яго так, як чакае асуджаны на смяротную кару злавеснага скогату ржавага турэмнага замка.

Цімафей Міронавіч яшчэ раз — ужо не так смела і ўпэўнена — паклікаў жонку і, яшчэ раз не пачуўшы адказу, парыўчата ўсхапіўся з крэсла і, працяты незразумелым страхам, кінуўся ў чорную палавіну хаты.

Маленькая молепадобная жанчына стаяла нездалёка ад качарэжніка, прыхінуўшыся худзенькім плячом да сцяны і застыўшы ў маляўніча-журботнай і таму дужа смешнай паставе. Як увайшоў муж, яна страсянулася ўсім сваім дробным целам, але на яго не азірнулася.

Цімафей Міронавіч грозна застыў на парозе.

— Матрёна! Ты чула, як я цябе гукаў, ці не?

«Матрёна» набрала духу і прапішчала з трагічнай рашучасцю:

— Чула...

— Ну?

Ён лічыў, што гэтага «ну» зусім будзе досыць, каб ачуліць жонку і вярнуць яе да ранейшай пакорнасці, аж памыліўся — маленькая молепадобная жанчына не зварухнулася з месца.

Гнеў у Цімафея Міронавіча змяшаўся з няўцямнасцю, і ён запытаў без асаблівай жорсткасці, нават з прыкметным ваганнем у голасе:

— Матрёна! Ты, будучы, чуеш, што я кажу?

Замест адказу яна зрабіла так, як рабілі ў падобных выпадках усе гераіні чытаных ёй калісьці раманаў: заламіла болесна рукі і,

утаропіўшы ў печку поўныя беспрасветнае роспачы вочы, гучна прашаптала:

— О, Божа! Калі гэта кончыцца ўсё!..

Цімафей Міронавіч асалапеў. Ён не ведаў, як далей ставіцца да жонкі, бо яшчэ не ўпэўнены быў, што яна звар'яцела. Каб не зрабіць часам непапраўнае памылкі, ён усё-ткі рашыў абыходзіцца з ёй пакуль што як з прытомнай. Ступіўшы некалькі крокаў наперад, ён сціснуўся ўвесь у цвёрдай каменнай злосці і выдушыў з сябе жудаснацiхім перажабленым голасам:

— Матрёна! Падумай, будучы, што ты робіш? — І з яшчэ большай гразой перапытаў: — Што ты робіш?

Маленькая молепадобная жанчына зноў страсянулася ўсім сваім дробненькім целам — і зноў не паддалася. Ламаючы рукі і з роспаччу гледзячы ў печ, яна войкала і стагнала:

— О, Божа! За што гэтыя мукі? За што я пагубіла жыццё сваё? За што я страціла сваю прасветлую маладосць? Што я бачыла ў гэтым жыцці? Што я мела з гэтага праклятага багацця, якое выпіла з мяне ўсю маю гарачую кроў?.. Куды я пайду цяпер? Дзе я дзенуся, няшчасная? Хто прытуліць мяне? Выпіў кроў маю, высушыў мяне, згубіў маю прасветлую маладосць! О, Божа мой, Божа!

Цімафей Міронавіч перажываў страшныя хвіліны. Ён зразумеў, што жонка не звар'яцела, і гэта спужала яго больш, чымся магло б спужаць яе праўдзівае вар'яцтва. Найцяжэй было адчуваць, што ён не мае над ёй абсалютна ніякай улады, што ён не можа нават суняць гэтых яе жорсткіх, пякучых дакораў. Увесь непахісны аўтарытэт яго, увесь страх, які яна скрозь адчувала да яго, уся яе трапятлівая пакора — усё гэта трымалася на няпэўным грунце яго пустой надманнай вялічнасці, і ўсё гэта ўраз разляцелася ці толькі калыхнулася гнілая будыніна яго дабрабыту.

Дзе ж яго сіла? Дзе ж яго воля над гэтай ціхай, вечна слухмянай жанчынай, якая дасюль не важылася зірнуць яму ў вочы, не важылася сказаць яму лішняга слова? Няўжо ён не здольны скарыць яе, вярнуць да ранейшае ціхасці?

Яму здаецца, што ад таго, ці патрапіць ён зараз даць рады сваёй узбаламучанай жонцы, залежыць лёс цэлага яго жыцця, і ён гатоў пайсці на ўсё, гатоў ужыць які хаця спосаб, абы ўціхамірыць яе, паказаць сваю сілу над ёй, сваю перавагу. І тут яго раптам асвятляе цудоўна-простая і ясная думка: ён жа – што б там ні было, а ўсё-ткі мужчына, ён фізічна дужэйшы за яе, ён можа сцерці ў порах гэтую нікчэмную, паскудную гадзіну!

І сціснутая ўнутры злосць Цімафея Міронавіча, знайшоўшы

выйсце, ураз абарачваецца ў шаленае парыванне. З тонкім нечалавечым віскам кідаецца ён у качарэжнік, хапае там нейкі ражон і замахваецца ім на жонку.

Але жонкі ў гэты момант пад рукой не знайшлося. Убачыўшы нечаканы і цалкам выразны замер свайго грознага мужа, яна пырхнула ад качарэжніка і, беспарадна махаючы рукамі, як падбітая перапёлка крыллямі, борздзенька пераляцела ў другі куток хаты. Там забілася за вялізны дубовы стол і шырока лыпала вачмі, асалапелая ад страху. Адылі ўбачыла, што Цімафей Міронавіч нерашуча суняўся, збянтэжаны, пэўна, сваёй абмашкай, і зноў вярнулася да свайго маляўнічага трагізму. Набраўшы поўныя грудзі паветра, яна з апошняю адвагаю чалавека, які ў роспачы кідаецца ў вір галавой, пляснула аб стол рукамі і, парыўчата схіліўшы на іх галаву, забілася ў істэрычным плачы.

Цімафей Міронавіч, пэўна, узяўшы на ўвагу, што ляжачага не б'юць, прайшоў паўз яе ў хмурым пагардлівым маўчанні і дэманстрацыйна ляпнуў дзвярмі ў чыстую палавіну хаты. Услед яму ляцела меладычнае рыданне асмялелае жонкі, скрозь якое прабіваліся горкія, нараканні:

— Божа мой, Божа! За што я такая няшчасная? Дзе мая доля, дзе маё шчасце? А я ж была маладая, а я ж была прыгожая... У гімназіі вучылася... Дзе маладосць мая? Дзе маё харасто? Хто згубіў мяне, хто ссушыў мяне, не даў мне ўбачыць у жыцці яснага сонца? О, Божа мілы! Калі гэта кончыцца ўсё?..

Гэта быў першы і апошні бунт маленькае молепадобнае жанчыны супроць грубой волі свайго суровага мужа. Памалу рыданні яе заціхалі, пераходзячы ў ціхае жаласнае хліпанне. Нарэшце яна ўзняла са стала галаву, шырокім жэстам прыклала да цемя руку і, прыжмурыўшы вочы, як у забыцці, прашаптала:

— Гэта — кашмар... чэснае слова...

У гэты момант з чыстае палавіны пачуўся абыклы, штодзённы, глыбока ўрослы ў нутро ў яе воклік:

— Матрёна!

І трагічная гераіня старых напаўзабытых раманаў, борздзенька абцёршы кулачком астатнія слёзы, дробна патупала да свайго мужа — бязмежна ціхая і пакорная.

Цімафей Міронавіч сядзеў на сваім троне горды, але літасцівы. У руцэ ён, як кляйноды ўлады, трымаў спопрыску ўхопленую ў качарэжніку чапялу. Ён убачыў жончыну пакору і звярнуўся да яе тонам у меру строгім, але такім, які даваў разумець, пгго ён занядбаў яе нядаўнюю дурасць і ўсё ідзе па-ранейшаму.

— Матрёна! Прынясі мне свежую бутэльку тарзану!..

«Матрёна» неўзаметку ўздыхнула, але пайшла выконваць загад ахвотна. Яна, як і яе муж, любіла нарзан, хоць ніколі не піла яго, — любіла за тое, што ён менавіта «тарзан»,а не нарзан, бо ад гэтага рамантычнага імя на яе патыхала чароўнай парой яе неверагоднае маладосці.

Шчасліва развязаны інцыдэнт з жонкаю і свежы нарзан падмацавалі троху Цімафея Міронавіча Гвардыяна, і ён вальготна адкінуўся на спінку свайго трона, глыбока ўбіраючы ў сябе чароўную слодыч збавіцельнага спакою. Ён да таго асмялеў, што адважыўся нават — хоць і з патаемным трапятаннем у сэрцы — зрабіць сабе нібыта спакойнае зусім, нібыта зусім бестурботнае запытанне: «Чаго ён, уласна, баіцца?»

Адылі зрабіўшы гэтае запытанне, ён доўга ў тупой, наўмысна нагнанай на сябе бяздумнасці стаіць перад чорнай заслонай глухога, невыразнага страху, што затуляе ад ягоных вачэй перспектыву, і доўга не важыцца адхіліць хоць маленечкі крайчык гэтае заслоны, хоць адным вокам зазірнуць за яе. Каб падрыхтаваць сябе да страшнага відовішча, ён пачынае блукаць сцеражлівымі думкамі па абходных сцежках меркаванняў, якія, аднак, пры ўсіх сваіх смелых прыпушчэннях усё роўна не даюць ані найменшага ўяўлення аб тым, што сунецца на яго за дымавой заслонай чорнага страху.

...Адбяруць каня... Кароў... Усіх ці не?

...Можа, накладуць які штраф... Колькі? Завошта?

...Няўжо і збожжа таксама возьмуць?

...Мо які вялікі непадужны падатак?

Цімафей Міронавіч сам разумее добра, што ўсе гэтыя меркаванні — прытульныя, але няпэўныя закутачкі, у якіх да пары хаваецца яго палахлівая свядомасць. Ён, праўда, ведае і тое, што большага быць не можа — прынамсі, цяпер, пакуль што — што ён нарыхтаваў сябе да найгоршага, і разам з тым чуе, што страх не ў гэтым, што страх зусім не мае нічога супольнага з гэтымі яго прыпушчэннямі — страх ідзе асобна, следам за імі, большы за іх і глыбейшы...

Чаго ж ён, уласна, баіцца?..

Нарэшце Цімафей Міронавіч Гвардыян упершыню за двое сутак свайго мардавання набіраецца адвагі, каб блізка, усутыч падысці да свайго непазбыўнага страху, смела прыгледзецца да яго, абмацаць яго рукамі. Ён нарэшце бярэцца за крайчык заклятае таемнае заслоны і сцеражліва, з апаскаю падымае яго.

За заслонаю — зіркатая насмешлівая пустата. Цімафей Міронавіч дагадваецца, што гэта проста гульня, што гэта страх строіць з іх

хітрыя свавольныя штукі. Выходзіць, што няма чаго і баяцца? Выходзіць, што ён дарма толькі мардуе сябе?

Ён добра ведае, што гэта — самаспадман, што страх яго быў недарэмны. Ого! Цімафей Міронавіч Гвардыян не будзе дарма баяцца! Але самая думка аб магчымай безгрунтоўнасці ўсяго ягонага страху дужа пацяшае яго, і ён, напружана перагнуўшыся наперад, нібы ў яго раптам закалола ў жывот, пачынае смяяцца дробным сакатлівым смехам — першым смехам за ўвесь час, як пайшла па свеце гэтая страшная згубная замятуха.

У меру насмяяўшыся, ён хоча нарэшце суняць свой смех і з жахам пераконваецца, што не можа, не мае сілы гэта зрабіць. Яго смех нібы адлучыўся ад яго, абярнуўся ў цалкам самастойную істоту, якая жыве сваім асобным жыццём, маючы на яго нейкую сваю, зусім незалежную ад Цімафея Міронавіча, падставу. Бо Цімафею Міронавічу ані не смешна — наадварот, кожны гук гэтага дзікага смеху-сакатання аблівае яго лядовай хваляй жудасці.

У Цімафея Міронавіча маланкай бліскае страшная думка, што ён звар'яцеў. Гэтая думка пераходзіць ва ўпэўненасць, калі раптам ён заўважвае, як смех яго дзіўна сплятаецца з густым гоманам нявіднага натоўпу, з цэлым хорам людскіх галасоў, што немаведама адкуль наляцелі і атачылі яго блытаным карагодам.

Адкуль гэты гоман? Адкуль гэтыя галасы?

Ага! Гэта — адтуль... Надышло ўжо... Падступіла.

Чаму ж не бразнулі клямкаю, а загаманілі там, за акном? Ён жа двое сутак, не спаўшы, не еўшы, чакаў гэтага раптоўнага, рэзкага, пякучага бразгату, ён жа так прывык да яго ў гэтым напружаным чаканні, што іначай не мог уявіць сабе першага сігнальнага гуку небяспекі.

Замест — бразнуць клямкаю, загаманілі за акном! Гэта дык ужо папраўдзе смешна, гэта можа ўвесцці і не ў гэткі рогат.

Замест клямкі — загаманілі...

І Цімафей Міронавіч аж кладзецца ад вясёлага нястрымнага смеху, які нарэшце знайшоў сабе такое поўнае, такое слушнае апраўданне.

...Як увайшлі ў чыстую палавіну, Цімафей Міронавіч Гвардыян ужо перамог свой дзікі, істэрычны смех. Ён стаяў перад люстэркам, трымаючы ў адной руцэ чарку нарзану, а ў другой — чапялу. Убачыўшы людзей, ён адышоўся да акна, асцярожна паставіў на ім чарку, потым перайшоў да свайго трона і чамусьці паставіў чапялу на самае сядзенне, а тады стаў проста перад людзьмі і ўпяў свой атупелы погляд у адну кропку, якая адразу забрала ўсю ягоную ўвагу.

За гэтую кропку быў прыгожы чарнявы твар Андрэя Шыбянкова. Усім здалося, што Цімафей Міронавіч вельмі спакойны і стрыманы, і ў іншых нават з'явілася да яго мімавольная павага — але гэта было чыстае непаразумснне: Цімафей Міронавіч проста асалапеў.

Што больш глядзеў ён у загадкава-ўсмешлівыя вочы Андрэя Шыбянкова, то ўсё шырэй і шырэй расхіналася перад ім чорная заслона ягонага страху.

За заслонай стаяла — ні больш ні менш як яго ўласнае гвардыянаўскае жыццё.

Гэта не былі згрызоты раптам ачуленага сумлення, гэта не было позняе каянне, гэта было больш страшнае і балючае: адчуванне поўнае беспаваротнае марнасці ўсіх незлічоных дзён яго нібыта добрага, сытага жыцця. Гэтыя дні грозна паўсталі на яго, парваўшы спарахнелыя ніткі аблуднага шчасця, якімі ён маніўся злучыць іх у нейкае законнае адзінства, і прыдушылі яго нязносным цяжарам свае ганебнае пустаты. Было падобна да таго, што чалавек цэлы век збіраў адусюль розны гломазд – цаглінкі, каменьчыкі, чарапкі, усё, што траплялася пад руку, што дзе няпэўна ляжала, – і ляпіў з яго пачварную, брыдкую, але мілую яго сэрцу будыніну. А ляпіў ён яе не цэментам, не вапнай, а мокрым пясочкам, які сяк-так трымаўся, покуль быў мокры. Павеяў жорсткі ядраны вецер, і ўраз расыпаўся абсушаны пясочак, і грымнуў увесь той недарэчны гломазд, заваліўшы сабой чалавека.

Урачыста скрывіўшыся і ёмка прыплюшчыўшы вока, чытаў Пацяроб пратакол. У яго цудоўна-напышаным голасе не было цяпер ні злосці, ні нянавісці, ні нават асаблівай строгасці — адно вясёлае задавальненне: ён страшэнна любіў такія важныя сенсацыйныя справы.

Цімафей Міронавіч не чуў ані слова з таго пратакола. Ён неадступна ўзіраўся ў трыумфальны твар Андрэя Шыбянкова — нават не са страхам, а з нейкай дзіўнай адзервянелай цікавасцю. Скрозь чорныя насмешлівыя Андрэевы вочы на яго глядзела насмешка бязлітаснага жыцця, што так жорстка, так балюча яго ашукала. Як скрозь шкло перавернутага бінокля, ён бачыў неспадзявана адкрыты вобраз свайго дабрабыту — пачварна маленькі, убогенькі, сабраны ў адну плаксіва-скрыўленую грымасу. І гэта ўсё было так асобна, так незалежна ад самога Андрэя, ад яго фатальнай варожасці, перад якой цеперся дрыжаў Цімафей Міронавіч, што пачынала здавацца, нібы паміж іх зусім няма ніякае злосці, нібы ўсе тыя цёмныя справы былі ў Цімафея Міронавіча з некім іншым, а Андрэй Шыбянкоў проста быў выпадковы, незацікаўлены і нават цалкам безуважны сведка. І цяпер

ён прыйшоў сюды не спаганяць сваю застарэлую крыўду, а от проста так — пацікавіцца, можа, пасмяяцца троху з яго нешчаслівай прыгоды.

Цімафею Міронавічу страшэнна хацелася, каб гэта было менавіта так, каб страшны «зладзюга» Шыбянкоў абмінуў яго сваёй помстаю, і ён з прыдуркаватай наіўнасцю асалапелага ад страху злачынца памкнуўся перад ім апраўдацца. Як кончылі чытаць пратакол і настала хвіліна вельмі цяжкага маўчання, ён раптам загаварыў да Шыбянкова, смешна ківаючы галавой і дзеля большай праканаласці трымаючы перад носам палец:

— Я не злодзей... Я не ўкраў у вас, будучы, не адабраў... Я не абрабаваў вас... не... Я — па закону...

Усе застылі ў глыбокай цікавасці, усе нецярпліва чакалі, як паставіцца да гэтага Шыбянкоў.

Андрэй раптам змяніўся ў твары. Трыумфальна самадавольная ўсмешка яго абярнулася ў драпежную, зларадасную міну, твар скрывіўся ўвесь, скуксіўся, стаў меншы і непрыгожы. Ні слова не гаворачы, ён пачаў наступаць на Гвардыяна ў грознай павольнасці, працінаючы яго вострым жудасна-бліскучым зіркам.

Цімафей Міронавіч, увесь калоцячыся, адступаў дробненькім расцярушаным крокам у глыб пакоя. Нібы загіпнатызаваны страшным поглядам Шыбянкова, ён не мог адарваць ад яго сваіх вачэй, шырока расплюшчаных, нерухомых, працятых халодным жахам.

І выйшла так, што акурат у гэты момант Пацяроб, мабыць, затым, каб перапыніць гэтую прыкрую сцэну, з усёй, на якую ён здольны быў, дабрадушнасцю лэпнуў Гвардыяна па плячы:

— Эх ты, любачка!

Раптоўна — ды і не надта слабенькі — удар даляцеў да Гвардыянавай свядомасці раней, чымся вясёлыя Пацяробавы словы, і, злучыўшыся з агульным комплексам яго перажыванняў, выклікаў маланкавабыстрае, пякучае адчуванне: «Б'юць!»

І Цімафей Міронавіч у інстынктыўным парыванні да самаабароны смешным нязграбным рухам затуліў галаву рукамі і крыкнуў дзікім фальцэтам:

— Ай-яй!

Гэта было так неспадзявана і так нестасоўна да агульнага настрою, што ўсе, хто быў у хаце, зайшліся ад вясёлага смеху.

Андрэй Шыбянкоў, цяжка аддыхваючыся, вярнуўся назад з пахмурным выглядам чалавека, якому перашкодзілі зрабіць хоць і жорсткі, але высокасправядлівы ўчынак.

Цімафей Міронавіч зразумеў сваю памылку. Яму было б, пэўна,

дужа сорамна, каб не перамагло ў ім другое, больш актуальнае пачуццё — паганенькая звярыная радасць шчаслівага ратунку ад небяспекі. І ён недалужна смяяўся разам з усімі, пазіраючы то на аднаго, то на другога поўзкім, ліслівым поглядам.

У яго так і астаўся гэты разгублена-прыбіты і саладжавы настрой. Нават калі ўгледзеў ён сярод людзей чырвоны карабаты твар свайго брата, нават калі Паўлюк, мабыць, упадабаўшы эфектнае выступленне Шыбянкова, таксама падступіў да яго і з усіх сіл пяўся зрабіць перад ім як найстрашнейшую міну (яна ніяк у яго не выходзіла, бо быў залішне п'яны), нават і тады Цімафей Міронавіч Гвардыян не вярнуўся да свае ранейшае станавітасці і не крыкнуў па-ранейшаму на брата — пагардліва, як на сабаку,— а ўсміхнуўся і яму і запытаў з зусім нечаканай ад яго дабротлівасцю:

— Ужо набраўся, га? Хе-хе... Выпіў сабе троху?..

Збянтэжаны такім абаротам, Паўлюк доўга бурчаў сабе пад нос нешта невыразнае.

Але быў яшчэ адзін момант, што Цімафей Міронавіч Гвардыян стаў зноў Цімафеем Міронавічам Гвардыянам у поўнай велічы свае грознае, жорсткае натуры.

Гэта было ўжо на двара.

Цімафей Міронавіч выйшаў з хаты з пакорнай слухмянасцю чалавека, які з мілай ахвотаю зробіць усё, што ад яго патрабуюць. Знімаючы з крўка ключы (яны спрадвеку віселі там у святой незачэпнасці, і ніхто, апроч гаспадара, не важыўся да іх дакрануцца) — знімаючы з крука ключы, ён ласкава гукнуў жонку, якая была зашыўшыся недзе ў зацішны куточак:

— Матрёша! Пойдзем!

І гэтым словам «Матрёша», сказаным, бадай, упершыню за ўсё іхняе сумеснае жыццё, ён увёў маленькую молепадобную жанчыну не ў меншае замяшанне, як і брата Паўлюка.

На двара былі яшчэ людзі, цэлы натоўп — яны, відаць, даўно ўжо сышліся тут і з нецярплівасцю чакалі пачатку цікавае працэдуры.

Цімафею Міронавічу гэта была неспадзеўка, і, стаўшы на ганку, ён з хвіліну ўзіраўся ў натоўп не то са страхам, не то з здзіўленнем, не то проста з цікавасцю. І вось тут, мабыць, у апошні раз абудзіўся ў ім сапраўдны Цімафей Міронавіч Гвардыян, суровы гаспадар і былы кур'ер высачайшай камісіі па такіх-та і такіх-та справах.

Паперадзе ўсяго натоўпу стаяў Галілей. Ён тупаў на месцы ад холаду, дробна кхекаў і, здалося Гвардыяну, падміргваў яму хітра і насмешліва.

Цімафей Міронавіч увесь страсянуўся. Невядома, ці ўжо дужа

датклівае было Галілеева падміргванне, ці, можа, проста пачуў па сваёй сіле чалавека, але ўся яго звярыная злосць, прыдушаная знадворнаю, роджанаю інстынктам самаабароны падлыжнасцю, раптам скінула з сябе вымушаную заслону і паўстала ў поўнай сваёй натуральнай сіле. Ён дзіка напружыўся, рукі ў яго сутаргава сашчаміліся ў кулакі, а твар акасцянеў у драпежнай корцы. Саступіўшы з ганка, ён паволі, так, як там, у хаце, Андрэй Шыбянкоў, пасунуўся на Галілея.

Стары дзівак падпусціў яго крокі на два да сябе і зрабіў смешнае, недарэчнае, зусім нестасоўнае да сталага чалавека: ён паказаў Цімафею Міронавічу Гвардыяну язык. І гэта было так нечпадзявана, што Гвардыян збянтэжыўся і спыніўся, не ведаючы, што яму рабіць далей. Пакуль ён ахамянуўся, там, дзе стаяў Галілей, асталося адно пустое месца.

Дружны бязлітасна-глумлівы рогат прыгбаў апошні выбух суровага гаспадара і былога кур'ера высачайшай камісіі па такіх-та і такіх-та справах, і ён, пакорна схіліўшы галаву, пайшоў адмыкаць свае адрыны і свірны.

## 2

У Сівалапах дагараў у шчаслівым запале новае цудоўнае працы старшыня калгаса «Наша перамога» Якуб Лакота. Ён доўга і настойна адмаўляўся ад гэтай пасады – не таму, што не хацеў, а што не ўпэўнены быў у сваіх фізічных сілах. Яго ўгаварвалі з цёплай сваяцкай ласкай, абяцалі поўную ад усіх дапамогу, і ён нарэшце згадзіўся. На сакратара калгаса з яго прапазіцыі выбралі Мікіту Лаўрынёнка, маладога кемкага гаспадара, што спрабаваў некалі вучыцца на агранома.

У Якуба Лакоты ад першага таго сходу асталося ўражанне радаснага здзіўлення, блізкага да неймавернасці. Сапраўды, цяжка было даць веры, што гарачыя, смелыя яго імкненні, якія часцяком самому яму здаваліся недасягальнымі лятункамі, сталі раптам на парозе свайго здзяйснення. І сам ён будзе не толькі браць чынны ўдзел у гэтай казачна-новай будоўлі, а нават будзе ёю кіраваць.

Для Якуба Лакоты канчаткова згінулі хвіліны спакойнага адпачынку — і дні і ночы абярнуліся яму ў безупыннае напружанае гарэнне. Трагічны разлад паміж яго маладым нязгасным запалам і ўбогімі рэшткамі глыбока пaverаджонага здароўя дасягнуў найвышэйшага пункта. Гэта, ён чуў, не вяшчуе яму нічога добрага, але не задумляўся дужа над гэтым, бо, наогул, на сваё фізічнае здароўе глядзеў з спакойнаю абыклаю безнадзейнасцю.

У маладым калгасе адразу занялося жвавае, бадзёрае жыццё. Першыя пробліскі яго, дзіўна свежыя, яскравыя, атулены былі вясельным, чыста святочным уздымам. Якуб Лакота добра разумеў, што калектыў тады толькі адчуе сваю дзейную злучнасць і сваё значэнне, калі возьмецца супольна за якую канкрэтную жывую работу, і таму з першых жа дзён зачаў шукаць такое работы.

Пастанавілі адразу пачаць падрыхтоўку да калгаснага будаўніцтва, і на першую чаргу назначылі будоўлю вялікае стадолы на ўсю, якая мела быць абагулена, жывёлу. Дасталі дазвол на вывазку лесу, і з вясёлых масавых выездаў па яго зрабілі праўдзівую дэманстрацыю свае дружнае сілы і энергіі.

Якуб Лакота здабыў аднекуль будаўнічага тэхніка, і некалькі вечароў узапар збіраліся ў яго ў «габінеце» самарослыя сівалапаўскія архітэктары, каб разам з тэхнікам абмяркоўваць план новае будоўлі. Гэта былі дзівосныя незабыўныя гадзіны, калі з непраходна-дзікіх зарасляў цёмнай мужыцкай свядомасці, аплеценых атрутным хмелем спрадвечнага чмуру, раптам завязваўся і паволі расцвітаў пышны квет калектыўнай творчай фантазіі, імклівага домыслу і ініцыятывы. Забываліся на ўсё — на позні час, на змору, на немінучыя турботы заўтрашняга дня — і ў шчыльна збітым гарачай дружнасцю гуртку ламалі галовы над найдрабнейшымі дэталямі складаных будаўнічых канструкцый.

Гэта была першая брыгада калгаса «Наша перамога». Вынікі яе працы — яшчэ хісткія, няпэўныя, праблематычныя — разыходзіліся па ўсіх Сівалапах і залучалі ў кола далейшых меркаванняў амаль усіх калгаснікаў, а часам і аднаасобных гаспадароў. Бо што ж можа з такой сілай захапіць знудзелую ў тупой абыдзёншчыне свядомасць земляроба, як не смелыя планы хоць яшчэ і неверагоднага, але канкрэтна ўяўленага ўжо дабрабыту!

Так пачынаў жыць калгас новымі супольнымі інтарэсамі, так завязвалася новая творчая сувязь паміж яго сябрамі.

Тым часам старшыня калгаса меў яшчэ свой асаблівы клопат, якому аддаваў ён пазасталыя ад штодзённых турбот часіны: ён перарабляў свае вялікія, з такой стараннасцю і з такім цяжарам складзеныя планы. Фактычна гэта была не пераробка, а скарачэнне, звужэнне да сціслых меж сівалапаўскае рэчаіснасці. І праца гэта была Якубу Лакоту, бадай, не лягчэйшая, чымся першапачатковае іх складанне. Гэта была вельмі балючая праца, бо выпадала з бязлітаснай жорсткасцю абцінаць пышныя, квяцістыя галіны таго дрэва новага жыцця, якое стварыў быў ён у сваім творчым парыванні. Яго стан быў падобны да стану мастака-разьбяра, які, стварыўшы бязмежна

прыгожы вобраз, прымушаны быў бы груба абсеч яго чароўныя формы, каб мог ён змясціцца ў прызначанай яму нішы. Але вострае адчуванне пладатворнасці свае працы, упэўненасць у блізкім здзяйсненні сваіх новых, хоць і меншых і хоць не гэткіх яскравых планаў кампенсавала яму вымушанае самаабмежаванне, і ён працаваў з даўнейшым запалам, з даўнейшай фанатычнай адданасцю справе.

Часамі траплялася, што ў сваёй заложнай рабоце сярод глухой маўклівай начы ён натыкаўся раптам на нечаканую перашкоду, на брак якіх-небудзь канкрэтных матэрыялаў пра распланаванне калгаснага поля, пра размяшчэнне тых ці іншых дзялянак, якія мог ён здабыць, толькі непасрэдна пабыўшы на месцы. Тады адкладаў ён справу да рання і да рання не зводзіў вокам, да рання кавэнчыўся на сваім мулкім ложку, пазіраючы штохвіліны, ці не сівее ўжо акно марудлівым зімовым золкам.

Нарэшце ў скрозь пракалупанай нецярплівымі вачмі цемры азначаўся хісткі квадрат акна, і Якуб Лакота зрываўся з абрыдзелага, абмуленага непакойнымі бакамі ложка. Наспех апрануўшыся, ён наўмысна млявай, размякчонай сном хадою праходзіў цераз агульную хату і, абмінаючы старую матку, якая поркалася ўжо каля печы, пазяхаў з такой заразлівай слодыччу, што той і ў думцы не было, каб гэта ён куды выбіраўся з гэткай пары на работу. Так з наіўнай дзяцінаю хітрасцю падманваў ён пяшчотную чуйнасць маткі, якая з балючай трывогай сачыла за няўхільным згасаннем свайго каханага сына.

У сенцах цішком, па-зладзейску, намацваў ён старыя лыжы — рэшткі свайго калішняга маладога раздолля — і, ухапіўшы іх пад паху, выбягаў за двор, сцеражліва азіраючыся, каб часам не злавіла яго на месцы злачынства руплівай маці.

Па полі хадзіў сінімі халоднымі хвалямі апошні перадранішні змрок. Поле драмала лядовай дрымотай — глыбока самотнае і чулае ў сваёй сіратлівай закінутасці. Працавіты шоргат лыж працінаў маркотна-застылую цішыню з жорсткай нахабнай рэзкасцю, нібы, прынёсшы з сабой смелы водгалас неспынёнага людскога жыцця, дражніўся з санлівай змярцвеласці зімовага поля.

Якуб Лакота з гоні ішоў шпарка, размашыста, успамінаючы свой калішні спрыт і падманваючы самога сябе гарачкавым выбухам свае астатняе сілы. Потым сунімаўся, зняможаны, і, хваравіта аддыхваючыся, усміхаўся пакорнай вінаватай усмешкай.

Адылі радасна было і раздольна апынуцца аднаму ў пустым заснежаным полі, дзе бяскрайняя самота давала чароўна-зманлівую магчымасць забыцца на сваю няздольнасць і пачуць у сабе былога,

поўнага нязбытых сіл чалавека. Абкружэнне здаровых людзей заўсёды падкрэслівае слабасць хворага, даючы яму відочную, неабмыльную мерку ягонае немачы, і, толькі пазбыўшыся гэтых хадзячых узбораў фізічнае дасканаласці, можа ён пацешыць сябе мімалётнымі бліскамі збавіцельнага самаспадману.

Прайшоўшы з чвэртку вярсты павольным ужо, спакойным крокам, Якуб Лакота з глыбокім здаволеннем адзначаў, што ён амаль зусім яшчэ не чуе зморы, і пачынаў старанна вымяркоўваць, колькі б ён здолеў прайсці за гадзіну, за дзве, за тры — вядомая рэч, з адпачынкамі, спакваля, не спяшаючыся, бо чаго ж яму канечна ляцець, як непрытомнаму? Выходзіла, што дужа многа, і тады на паружавелым ад хады і марозу твары ў яго грала бясконца шчаслівая, радасная ўсмешка. Яму здавалася, што ён зусім яшчэ здаровы чалавек. І, неўзаметку для самога сябе, ён зноў пераходзіў на шпаркі размашысты рух, каб, з гоні прайшоўшы, зноў спыніцца, задыхаўшыся і закашляўшыся.

Згарнуўшы з сябе астатнія косы начнога змроку, зімовае поле ў раптоўнай яснасці паказвала свае прасторы. Гонка, імкліва разбягаліся ў розныя бакі белыя прытульныя далі, хаваючыся за шызыя драцяністыя хмызнякі, за гладкія пукатыя ўзгоркі. Навокал — куды ні зірні — паўставалі ўваччу з дзяцінства знаёмыя куточкі, дзіўныя і інакшыя ў сваім зімовым убранні. Якуб Лакота бесцырымонна зрываў з іх гэтае пышнае, велічнае ўбранне і апранаў іх у лёгкія квяцістыя шаты залатога лета. І нейкую часіну жыў ён тады жыццём даўно прамінулым, светлым, прамяніста-прыгожым...

Успаміны пацешна пераблытваліся, зводзячы ўместа далёкія адзін ад аднаго і дзіўна розныя моманты жыцця.

Вось засыпанае снегам глыбокае глінішча вытыркнула абвеяны ветрам кавалак свайго стромкага звалу. У чорнай адубелай гліне відаць цэлая сістэма пячурак, што дзеля забаўкі пакапалі, пасвячы коней, сялянскія хлапчукі. Напэўна, дзе-небудзь яшчэ ахавалася такая пячурка, выкапаная калісьці даўно-даўно ягонымі рукамі. Што яна мела тады выабражаць у тых чароўных казках-гульнях сонечнага дзяцінства? Можа, якую хату, можа, печку сапраўдную, зусім такую, як у хаце, нават можна паліць яе і пячы ў ёй бульбу, можа, таемнае логва якога-небудзь дужа страшнага звера?

Якуб Лакота з усмешкай успамінае, што ягоная і ўсіхныя пячуркі выяўлялі тады, як абстрэльвалі яны з гэтага глінішча атрад белапалякаў. З гэтых пячурак слаўныя выйшлі былі байніцы!

Успамін далёкага дзяцінства шчытна сплятаецца з пякуча-яскравымі карцінамі партызаншчыны. І цяжка азначыць, што мілей

успамінаецца: тое ці тое?

А вунь далёка леваруч паўстае густая сцяна лесу. Гэты лес завуць Ганніна пушча, і пра рамантычна-таемную Ганну блукае па ўсёй акрузе ці мала страшных і прыгожых легенд, якія калісь былі і яму глыбейшай сапраўднасцю, чымся тое, што ён бачыў наўкола на свае вочы.

Якуб Лакота ўспамінае, што яму якраз і трэба да гэтае пушчы, і збочвае туды з вялікай ахвотай.

Тут зноў ружовыя карціны дзяцінства (грыбы, ягады, арэхі, лісавы норы), і праз кволую іх ружовасць гарачай чырванню выступаюць нязводныя плямы першага пачуцця — магутнага і дурнога, дзівачнага і без меры прыгожага, яснага.

Ён зварачае ў лес па вузкім, абвешаным снегавым серпанцінам праходзе, які астаўся на месцы летняй дарогі. З ціхім здзіўленнем прыглядаецца ён да знаёмых мясцінак, што пахаваліся ад яго пад белай маскай зімы, вышуквае іх, выцягвае вокам з-за снегавой заслоны. Ад яго не схаваешся, не!

Вось пад гэтым дубам — не іначай як пад гэтым — знайшоў ён некалі дваццаць баравікоў за адзін раз. Як марудна расце гэты дуб! Ён амаль астаўся такі, як тады, колькі дзесяткаў год таму. А можа, гэта змяніўся маштаб ягоных вачэй і тое, што ўдвая ці ўтрая пабольшала, яму выдае гэткім самым?

А вось тут трэба звярнуць з дарожкі і пашукаць аднаго дужа патаемнага і дужа зацішнага месца. Да яго нялёгка дапасці — тут і ўлетку цяжка прайсці, а ўзімку, на лыжах, і пагатове. Але дзе ж ён, быўшы тут, абміне той чароўны куточак, што некалі цвіў у яго сэрцы адзінымі, непаўторнымі ў чалавечым жыцці краскамі?

Пяць прысядзістых шырокіх дубоў абсталі маленечкі лапік-палянку. Папраўдзе, тут улетку павінна быць дужа прыгожа. Жывы шацёр.

Але як не падобна тут цяпер да таго, што было! Урослыя ў снег дубы паніжэлі, адрузлі, сталі старыя і непрыязныя. Замест прытульнае палянкі — крывы сумёт жорсткага снегу.

На вуснах у Якуба Лакоты стыне маркотная балючая ўсмешка. Ён няўцямна азірае палянку, потым узнімае вочы ўгору — мо там асталося што ад ранейшага харастваа? — і бачыць жудасна пакарожаныя чорныя рэбры, а на іх дзе-нідзе, як лахманы на брудным целе старога жабрака, чмарае, струхлелае лісце.

Ён зноў пераводзіць погляд на паляну і спрабуе ўявіць на ёй далёкі, напаўзабыты вобраз. Ён бачыць яе — самотную, беспарадную — яна плача і працягвае да яго свае рукі, як тады, у астатні раз. З

сэрца ў яго цяжка выціскаецца кропля даўнае, рэдкае, вадзяністае пяшчотнасці. І разам з тым, як падае з сэрца гэтая ўбогая кропля, ураз знікае і той смутны перабалелы ўнутры ў яго вобраз.

Іхняе каханне скончылася пасля таго, як дзікая белагвардзейская экзекуцыя абярнула яго ў недалужныя руіны былога чалавека. Вобраз яе смутнае, з слязьмі ў вачах, з выцягнутымі да яго рукамі — гэта апошняя сустрэча іх на гэтым вось месцы перад тым, як ішоў ён на страшную рызыкоўную справу.

Якуб Лакота ўсміхаецца ўжо без смутку і болю.

Пакуль ён праз колькі год лячыўся, збіваў сяк-так абломкі свайго разбітага цела, яна выйшла замуж. Як ён нарэшце вярнуўся ў Сівалапы і сустрэў яе, яна пастаралася была зірнуць на яго з ранейшай пяшчотнасцю і балюча абразіла яго сваім вымушаным поглядам.

Яна і цяпер жыве тут — з яе выйшла грубая, звяглівая баба. Якуб Лакота часам думае: якая была б яна, каб іначай тады, у другі бок павярнулася было іхнае жыццё?

І тады ўсміхаецца без смутку і болю...

Аддаляючыся ад знаёмага куточка і ўглыбляючыся ў нетры лесу, Якуб Лакота адначасна аддаляецца думкамі ад сацьмелых вобразаў таго чароўнага часу і ўглыбляецца ў густыя нетры далейшага свайго жыцця. Смешна і сумна: у гэтым жыцці не было ў яго больш жанчыны. Думкааб гэтым уводзіць яго ў сарамлівае здзіўленне, за якім цішком хаваецца настойлівая нязбыўная прагнасць да непазнаных уцех, якую ён зазвычай бязлітасна душыў у сабе цвердай свядомасцю свайго няўздольнага стану.

Сёння ён адчувае сябе паўнамоцным чалавекам, і сёння злачынная прагнасць бярэ ў ім сваю законную неабмежаваную сілу і абарачаецца ў шчымліва-журботнае імкненне.

Няўжо ён, не жыўшы, пражыў ужо ўсё сваё мужчынскае жыццё? Няўжо ён не можа знайсці сабе — хай не зусім поўнага, хай палавіннага, але сапраўднага чалавечага шчасця?

З раптоўнай смеласцю і задорам ён пачынае перабіраць сівецкіх жанчын, успамінае свае мімалётныя сустрэчы з імі і пераглумачвае ў пэўны кірунак іхнюю сяброўскую да яго прыязнасць і ласку. З асаблівай упартасцю думка яго сунімаецца на Тацяне Шыбянковай.

Тацяна ад таго часу, як паехаў Зелянюк і як утварыўся сівалапаўскі калгас, часта прыходзіць да яго. Яна не баіцца, не бярэ жаднай увагі на тое, што гэтыя прыходы могуць выклікаць якія-небудзь нядобрыя дзейкі, могуць набыць сабе ў грамадзе непажаданае тлумачэнне. Ці гэта добра яму, ці дрэнна? Можа, яна проста не мае яго за мужчыну і таму так спакойна ідзе да яго, часам нават позна зусім,

амаль уначы?

Яна прыходзіць і заўсёды з спакойнаю, трошачку сарамліваю ўсмешкай пытаецца:

— Я не перашкоджу табе, Якубе?

Потым сядае і пачынае распытваць пра калгас, пра ўсе драбніцы яго маладога жыцця і ў адказ на ягонае захапленне радуецца ціха і проста, з мяккай жаночай стрыманасцю. Неадменна пытаецца кожны раз пра Зеленюка, ці няма ад яго якой весткі, і заўсёды пахваліцца, калі атрымала ад яго ліст, нават троху-патроху перакажа ўвесь яго змест. Яна заўсёды глядзіць на яго, на Якуба Лакоту, з яснай, але зноў жа трошачку сарамлівай ласкай, нібы хавае ў сабе нейкае сваё бабскае замяшанне.

Можа, гэты мяккі, надзвычай прыемны погляд яе тоіць у сабе незразумелае яму салодкае абяцанне? Можа, яе прыходы — гэта выяўленне яе асаблівага да яго пачуцця?

Сэрца ў Якуба Лакоты ад гэтае думкі пачынае тукаць у хворых грудзях з недазвольнай заўзятасцю і збівае навакол сябе клубок даўкага болю, які прымушае спыніцца і аддыхацца. Разам з гэтым і спыняюцца смелыя, не ў меру гарэзныя яго думкі-лятункі, з разгону наткнуўшыся на адчуванне безнадзейнае фізічнае немачы.

Канчаецца лес, і разам з ім канчаецца кароткі экскурс Якуба Лакоты ў цьмяна-ружовы край яго пачуццёвага ранняя, і асядаюць жорсткастрыножаныя лятункі яго пра нязбытнае (а можа, ужо і непатрэбнае?) шчасце.

Адгарадзіўшыся ад свае хвіліннае слабасці сцяной бязмернай дзелавітасці, ён бярэцца за патрэбныя яму выгляданні і робіць іх перш з хмураю напружанасцю, з халоднай увагай. Адылі твар яго распагоджваецца, чыстыя вочы загараюцца светлым іскрыстым агнём, і вусны шукаюць абыклае радасна-шчаслівае ўсмешкі.

Ён зноў удаецца ў палкія нястрымныя летуценні. Гэтыя летуценні — законныя, паўнапраўныя, і ён не толькі не гоніць іх ад сябе, а старанна песціць у сваім сэрцы, бо ж у іх, у гэтых смелых і разам з тым такіх блізкіх, такіх дасягальных лятунках,— праўдзівае неад'емнае ягонае шчасце!

Пустое бязмежнае снегавае поле — ці ёсць дзе большая прастора вольным разлётам гарачай фантазіі чалавека? Тут нічога не трэба бурыць ці перайначваць, пераабражаць — на чыстым шырокім раздоллі можна смела ўзнасіць якія-хаця гмахі, можна разводзіць пышныя райскія сады, можна стварыць зусім новы свет, не звязаны формамі сучаснасці.

Ён стварыў сабе такі свет. Хто яго ведае? Можа, свет гэты зусім

аблудны, няўжытачны чалавеку, можа, ён адно смешны ў сваёй наіўнай нязграбнасці? Пра гэты свет ён нікому не гаварыў і не скажа — ён рабіў яго для сябе, каб аздобіць сваю жыццёвую дарогу ясным хараством далёкай мэты. Ён рабіў яго здаўна, складаў яго па маленькім кавалачку — і таму ў ім дзівосна памяшаліся кволыя краскі дзяцінных лятункаў з цаглінамі сталых вымеркаванняў дарослага чалавека.

Ён стаіць сярод самотнага поля і, пільна ўзіраючыся ў снегавую даль, бачыць там абрысы збудаванага ім свету. Яны — перш невыразныя, бледныя — набіраюць з кожнай хвілінай усё большае лёгкасці, яны відавочна ружавеюць і, сагрэтыя гэтай ружовасцю, яшчэ большую маюць прывабнасць.

І яшчэ больш яскравеюць фарбы, празрыстая ружовасць насычаецца новаю сілай, пыхае новым агнём — і ўжо гарыць, паланее гордая пераможная чырвань!

Гэта ўзышло нарэшце познае зімовае сонца. Яно вынырнула з пульхнае белі снягоў, як з белых пухавых падушак вясёлы тварык дзіцяці, і з шчырай цікавасцю зірнула на дзівачную будоўлю апантанага чалавека. І, глыбока расчуленае нечаканым хараством, з цёплаю ласкай пагладзіла яго сваімі мяккімі косамі.

Якуб Лакота спяшаўся дадому, да тлумных шчаслівых турбот, у якіх дагарала яго павераджонае здароўе і сіла.

## 3

На камсамольца Віктара ад'езд Зеленюка зрабіў глыбокае ўражанне. Праз доўгі час ён не мог быў пазбыцца дакучлівага пачуцця сіратлівай журбы, нібы спасцігнула яго ў жыцці вялікая беззваротная згуба. Ды яно так і было, бо яго шчырая дружба з Зеленюком, яго пяшчотная адданасць гэтаму чалавеку стала ддя яго адным з найглыбейшых рухаў маладой неспакушонай натуры. У ягоным жыцці сапраўды адкрылася балюча-пустое месца.

У такіх выпадках заўсёды горкасць перажывання знаходзіць сабе нейкі асобны, часам нават малазначны пункт ддя свае фіксацыі (можа, гэтым чалавек інстынктыўна хаваецца ад уяўлення ўсяе велічы страты?) — і ў Віктара за гэты пункт была дробная выпадковая акалічнасць: ён не развітаўся з Зеленюком. Увесь свой смутак пераліваўся тады ў едкую шчымлівую крыўду.

Ён ведаў, што Зелянюк паедзе ўранні, але не думаў, што гэтак рана. Яшчэ досвіта прыбег ён да Малахавае хаты і, убачыўшы, што ў чыстай палавіне гарыць святло, увайшоў здаволены, рады, што не

спазніўся, што яшчэ заспеў перад ад’ездам свайго прыяцеля. Яго крыху здзівіла, што ў гаспадаровай палавіне зусім цёмна, але ён доўга аб гэтым не разважаў і адразу падаўся да Зеленюка.

Зеленюка ўжо не было. У ягоным пакоі непрыемна кінулася ў вочы халоднае бязладдзе, якое, астаючыся па ад’ездзе чалавека, заўсёды наганяе на блізкіх смутак і нездаволенне.

Па падлозе рассыпаны былі падраныя паперы, а на стале ляжаў грудок кніг — можа, забытых, а можа, наўмысля пакінутых тут. Над кніжкамі схілілася ў глыбокай цікавасці Аўгінька. Як увайшоў Віктар, яна спужана адскочыла ад іх, адылі раззлавалася на свой наўмысны спалох і пачала спаганяць злосць на небараку Віктару:

— Ага, паехаў? Што, спазніўся? Ага?

У яе ў голасе поўна было праўдзівае, блізкае да слёз, злосці, але прычына той злосці была, безумоўна, не ў тым, што Віктар так пахабна яе патурбаваў: Аўгінька такім спосабам вылівала сваё нездаволенне ад'ездам Зеленюка, бо і яна глыбока была да яго прывязалася і прывыкла бачыць у ім свайго блізкага чалавека.

Віктар дзеля прылікі запытаў, ці даўно паехаў, і панура сеў на зэдлік, што нядбайна высунуты быў на сярэдзіну хаты.

Аўгінька дражнілася далей, толькі ўжо троху ў іншым кірунку:

— Ага, цяпер не будзеш хадзіць? То дык на дні па дваццаць разоў, а цяпер дык не тое ўжо? Ага, нахадзіўся?

Віктар скоса зірнуў на яе і зрабіў трагічнае вока.

— А ты што, дужа рада?

Тут Аўгінька злавіла сама сябе на тым, што гэта яна, можа, больш сабе дапякае, чымся яму, і заціхла ў раптоўнай смутнай сур'ёзнасці. Віктару гэта ўпадабалася, і ён як мага развіваў свой пакорна-пакрыўджаны тон:

— Табе, мусіць, абрыдла, што я хаджу сюды? Ты толькі чакала таго, каб як адчапіцца? Не ўспеў ён паехаць, як ты ўжо з хаты гоніш, ужо загадзя кажаш, каб не прыходзіў. Добра, я не прыйду... Я магу не прыходзіць, калі табе гэтага хочацца.

Яна адвярнулася, каб схаваць свае слёзы, і прашаптала з пяшчотным дакорам:

— Віця!..

Яны абое ледзь трымаліся, каб не заплакаць, і абое глыбока ўпэўнены былі, што гэта — з крыўды за ўзаемныя незаслужоныя дакоры.

Але ткі Віктар і папраўдзе падумаў, як гэта будзе яму цяпер сустракацца з Аўгінькай, ці выпадае пяпер прыходзіць да яе без дай прычыны. Яшчэ каб былі яны ў калгасе, тады б, можа, і нішто, часам можна было б залучыць. А так — ніякай грамадскай сувязі.

І ён, занядбаўшы сваю крыўду, дзелавіта пытаецца ў Аўгінькі:

— Ці пойдзе твой бацька ў калгас?

Яна добра разумее, да чаго гэта імкне, і таксама забываецца на сваю крыўду.

— Хто яго разбярэ... Маўчыць усё, нават і гаворкі пра гэта не заводзіць. Ён скрозь так — будзе маўчаць, ні слова не скажа, аж пакуль не даўміцца да чаго.

Віктар зважна ківае галавой і надмеру салідным тонам канстатуе:

— Гэта дрэнна... Няма чаго чакаць... Час ужо абдумаць усё, абмеркаваць... Час ужо... так...

Гэты Віктараў тон, а злашча яго палітыка (ён жа наўмысля так, каб не паказаць, нашто ён уласна пытаўся пра калгас) страшэнна злуе Аўгіньку, і яна рэзка перапыняе яго:

— Дык пагавары з ім сам, калі хочаш... Што ты мне гэта тлумачыш...

Ён нейкі час маўчыць, а тады пытаецца ўжо іншым тонам:

— Нічога мне не казаў?

Аўгінька разумее, што гэта не пра бацьку, а пра Зеленюка, і выкарыстоўвае зручны выпадак для помсты.

— Ані нічога... Нават і не ўспамінаў... Вясёлы быў такі, усё песні пеў сам сабе... папраўдзе...

Яна лучае вельмі трапна, бо Віктара гэта коле ў самае сэрца.

«Нават не ўспомніў. Нават не пераказаў яму ніводнага слова... Не развітаўся...»

І яго ахапляе такая моцная крыўда, што Аўгінька, заўважыўшы яе, працінаецца глыбокім да яго жалем і напружана вышуквае якога спосабу, каб паказаць яму сваю ласку. Не знайшоўшы нічога больш складанага, яна проста падыходзіць да яго і асцярожна датыкаецца да яго рукой, што мае азначаць яе пяшчотнае абыйманне.

— Дык ты, Віцька, больш не прыйдзеш да нас? Не прыйдзеш? — І яна, смешна схіліўшыся да яго твару, зазірае з настойлівай дапытлівасцю яму ў вочы.— Ты толькі да яго прыходзіў? Больш табе тут нікога не трэба?

На гэтым у іх адбываецца вельмі гарачае і досыць неасцярожнае прымірэнне, бо ў гэты час у пакой уваходзіць бацька і замалым не заспявае іх на месцы злачынства...

...Ад таго дня ў жыцці камсамольца Віктара адбылася значная змена, якая ў сутнасці рэчы пайшла яму на карысць. Ён стаў больш сур'езны, у яго з'явілася новая рыска ў характары — упэўненасць у тым, што ён робіць, адчуванне свайго пэўнага месца ў агульнай

рабоце. Адсутнасць Зеленюка, бязмежны аўтарытэт якога амаль цалкам паглынаў дасюль яго дзейную ініцыятыву, прывучыла яго да самастойнасці ў жыцці і працы, да пачуцця поўнае адказнасці за свае ўчынкі.

Як і ўсе сівалапаўскія актывісты, Віктар глыбока захапіўся працай арганізаванага нарэшце калгаса і стаў аддаваць яму больш часу і энергіі, чымся гэта дазвалялі асноўныя яго абавязкі як сакратара камсамольскай ячэйкі, і гэта прывяло яго да рэзкае сутычкі з Сымонам Карызнам. Помнячы паводзіны ў гэтых выпадках Зеленюка і цвёрда наследуючы ім, ён скарыў свой юнацкі задор і шчыра згадзіўся з справядліваю заўвагай сакратара партыйнай ячэйкі. Яму адно страшэнна не ўпадабалася, калі Карызна з зусім не дзелавой і не таварыскай злосцю крыкнуў быў на канчатак:

— Я пакажу вам гэту зеленюкоўшчыну!

І вочы ў сакратара ячэйкі гарэлі ў той момант агнём дужа дрэннай нянавісці.

Гэта было невыпадкова. З таго часу бадай штодня даводзілася Віктару зазнаць на сабе часам справядлівы, а больш несправядлівы гнеў Сымона Карызны. Ён зразумеў, што гэта Карызна перанёс на яго ўвесь комплекс пачуццяў, якія раней меў да Зеленюка. Ён стрымліваў сябе і маўчаў. Нават у сваіх лістах да Зеленюка старанна абмінаў усё, што датыкалася стасункаў яго з Карызнам, і рабіў гэта з двух меркаванняў: па-першае, баяўся, каб не падумаў Зелянюк, што ён скардзіцца, намаўляе на Карызну, а па-другое, ён наогул стараўся менш пісаць пра адмоўнае, а больш пра станоўчае, бо хацеў паказаць свайму прыяцелю, што па яго ад'ездзе з Сіўца ўсё ідзе тут добра — бадай не горш, як пры ім. Ён адчуваў перад Зеленюком нейкую асаблівую адказнасць сваю за сівецкія справы, нібы і сапраўды перайшла на яго па Зеленюку не толькі зацятая варожасць Сымона Карызны, а і ўся грамадская місія непакойнага брыгадзіра.

Трэба сказаць, што Віктарава крыўда на Зеленюка трывала была да першага ліста, які ён атрымаў праз два ці тры дні па ад'ездзе прыяцеля. У гэтым першым лісце Зелянюк выказаў шчыры жаль, што не давялося, ад'язджаючы, убачыцца з ім, і ў надзвычай цёплым ласкавым тоне напамінаў пра іхную ўмову весці надалей сваё сяброўства і перапісвацца. Віктар як не ашалеў быў з радасці і цэлую ноч пісаў неміласэрна вялікі і без меры гарачы адказ, следам за якім на бедную Зеленюкову галаву меўся пасыпацца цэлы дождж частых і не меншых за першага лістоў, на якія шчодра аддаваў палкі юнак свае кароткія, маланкава-быстрыя ночы.

Усе лісты, атрыманыя ад Зеленюка, Віктар перачытваў нема-

ведама па колькі разоў і гарліва складаў іх адзін да аднаго ў сваю запаветную хлапецкую скрынку побач з іншымі сувенірамі, накшталт абгрызеных алоўкаў, сцірак, спісаных пёрак ды інш. Але стокрадь перачытаныя і запакованыя ў запаветнай скрынцы лісты ўсё роўна не давалі спакою — яны стаўпляліся ўнутры назолліва турботным узрушэннем, і гэта ўзрушэнне балюча распінала Віктарава сэрца, настойна патрабуючы выйсця. Віктар стаў шукаць чалавека, з якім бы можна было дзяліцца сваімі перажываннямі, і больш прыдатнага да гэтае мэты чалавека, як Тацяна Шыбянкова, вядомая рэч, знайсці не мог. У іх завялося смешнае зайздрослівае спаборніцтва, кожны атрыманы каторым ліст ад Зеленюка выклікаў у атрымальніка падзяцінаму непасрэдны эгаістычны трыумф, які адпаведным чынам уводзіў другі бок у старанна хаванае, але неперparam можнае засмучэнне. Адылі гэтыя жорстка розныя пачуцці дзівосна перамешваліся адно з адным падчас неадменных супольных чытанняў ліста, і сінтэзам іх была слаўная дружба, якая з кожным днём усё мацней і мацней звязвала спаборнікаў. Дружба гэта не асталася ў баку ад дападлівае ўвагі сівецкай публікі і ўпляла небараку Тацяну ў чарговую зласлівую інсінуацыю, міма якой яна, як зазвычай, прайшла з горда ўзнятай галавой незалежнай жанчыны-грамадзяніна. Віктару ж гэта каштавала цэлае вельмі датклівае сцэны з Аўгінькай, якая, аднак, скончылася для яго зусім неспадзяванай радасцю.

Было гэта так…

Дзеля таго, што бацька Аўгіньчын, сівалапаўскі селянін-серадняк Малах Тодараў Загароўскі, упарта не пісаўся ў калгас і камсамолец Віктар абвясціў яму за гэта індывідуальны байкот,— небарака Аўгінька, як даўней, кожнага надвячорку — толькі-толькі сядзе за Сівец гультаяватае зімовае сонца — выбягала на вуліцу (трэба ж даведацца ў суседак, ці збіраюцца сёння ў супрадкі, а хоць газы пазычыць, а хоць малых паглядзець, каб дзе не патапіліся на каўзялі), станавілася перад форткай, схаваўшы рукі ў рукаўкі свайго чырвоненькага з чорнай смушковай аблямоўкай кажушка, і пільна ўзіралася пад Сівец, зусім у другі бок, не туды, адкуль будзе ісці пунктуальны камсамолец Віктар. І зноў, як даўней, яны ішлі разам аж да млына (гэта ж не менш як гоняў з пяцёра!), і, выйшаўшы за Сівалапы ды клапатліва азірнуўпшся наўкола, ён зноў неўзаметку, на хаду абнімаў яе адной рукой і пяшчотна туліў да сябе і нібыта чуў праз халодную паверхню кажушка мяккую цеплыню яе ўтульна схаванага цела…

І вось неяк так падыходзячы надвячоркам пад Малахаву хату, поўны лёгкай хлапечай бадзёрасці і мілоснага трапятання,

камсамолец Віктар з вялікім здзіўленнем заўважыў, што Аўгінька, стоячы ля свае форткі, не ўзіраецца, як звычайна, у процілеглы бок, а з цалкам адкрытай нецярплівасцю чакае яго і, угледзеўшы, нават ступіла крокаў са два яму насустрач. У голасе, якім звярнулася яна да яго, гучала гарачая рашучасць і настойная, нават жаласлівая троху просьба.

— Віця! У нас нікога ў хаце няма... Бацька з маткай паехалі, а малыя недзе гуляюць... Зойдзем да нас... Добра?

Віктар як мага сціснуў у сабе раптоўную радасць і прыжмурыў вочы ў страшэнна дзелавітай развазе.

— Хто яго... У мяне зараз невялічкае пасяджэнне... Пакуль збяруцца хіба?..

Аўгінька сціху, не падымаючы рукі, пацiснула яго за кончыкі пальцаў і, зазірнуўшы ў вочы яму сваім асабліва блізкім, шукальным поглядам, прашаптала:

— Пойдзем, Віця... Ну, пойдзем...

Віктар азірнуўся на бакі і рашуча сігануў у фортку — балазе сёння няма ніякага пасяджэння, і ён блізка што зусім вольны.

Аўгінька, увайшоўшы ў хату, адразу села на лаўку і насупілася. Віктар памкнуўся абняць яе — дык яна нездаволена адпіхнула яго і адвярнулася. Гэта было ўжо троху не так, як там, на дварэ, і Віктар здэтанаваўся. Ён падумаў быў, што яна жартуе, і сілком павярнуў яе да сябе, аж, на вялікае сваё дзіва, убачыў, што ў вачах у яе бліскаюць слёзы.

— Аўгінька! Ты на мяне злуешся, ці што?

Замест адказу Аўгінька, ледзь стрымліваючы слёзы, жорстка і суха загаварыла:

— Я да цябе справу маю... Прынясі мне кніжак пачытаць... вось што... Я таксама

пісьменная і не дурная якая...

Тут Віктар ужо проста асалапеў.

— Якіх табе кніжак, Аўгінька?

— Усіх... Пра ўсе гэтыя вашыя справы...

— Пра камсамол?

— І пра камсамол... А што ж...

Тут голас у Аўгінькі задрыжаў, і яна яшчэ больш адвярнулася, хаваючы слёзы. Віктар праз нейкі час ламаў галаву, шукаючы тлумачэння такому дзіўнаму яе паводжанню, але марна. Тады ён асцярожна крануў яе за плячо і папрасіў ціхім, поўным жалю і пяшчотнасці голасам:

— Аўгінька... Ты скажы проста, аб чым тут справа. За што ты

крыўдзшіся на мяне?..

Аўгінька крута абярнулася да яго і, ужо не хаваючы слёз, гаварыла ў злосным узрушэнні, якое штохвіліны гатова было сарвацца на горкую роспач:

— Я, можа, хачу так, як яны... Што я — не чалавек, ці што? Яны і ў нардом, і на сходы, і ўсюды, усюды... Дзіва што яны разумныя... А з намі, як з дурніцамі якімі... З намі і пагаварыць няможна, нам толькі маніць ды ашукваць нас... А я не хачу так... Я не хачу!

Апошнія словы яе, поўныя капрызнага гневу, выбіліся з плачу неспадзявана цвёрдымі ноткамі, у якіх гучала зусім выразная пагроза ў адрас Віктара. Але зараз жа тон яе недалужна апаў, і яна заплакала ціха і пакорна — звычайнымі дзявочымі слязьмі, якія на неспрактыкаванага ды яшчэ такога шчырага хлопца, як Віктар, рабілі атрутнае ўражанне.

Збянтэжаны Віктар разумеў, што «яны» ў Аўгінькі — гэта Тацяна Шыбянкова і што «мы» страшэнна раззлаваліся за частыя сустрэчы і дружбу яго, Віктара, з прыгожай разумнай маладзіцаю. Але гэта толькі ўскладняла сітуацыю, і Віктар яшчэ больш не ведаў, што рабіць, чым суцешыць расплаканую Аўгіньку. Не даўміўшыся ні да чога больш, ён раптам прапанаваў Аўгіньцы такім урачыстым тонам, нібы сапраўды гэта было немаведама якое шчасце:

— Я прынясу табе ўсе лісты ад Зеленюка, і мы разам перачытаем іх... Добра?

Аўгінька адным вокам, ды і то з-пад ілба зірнула на яго і, глыбока хліпнуўшы, перапытала:

— Што?

Тут Віктар ужо зусім спанталычыўся, бо і сам не ведаў, нашто ён уласна гэта прапанаваў.

— Бачыш, Аўгінька... Мы заўжды іх з Тацянай чытаем... Яна мне — свае, а я ёй — свае...

Аўгінька слухала яго з строгім пахмурным чаканнем, нібыта не разумеючы, да чаго ён гэта вядзе.

— Там і пра цябе ёсць, Аўгінька... Я табе не казаў? Добра так напісана...

Аўгінька троху ўціхамірана прашаптала:

— Маніш...

— Дадушы, не маню... Каб ты ведала, як ён прыгожа ўмее пісаць — ніякая табе кніжка таго не дакажа. Вось пабачыш...

Аўгінька схапіла яго за руку і рвучкім капрызным рухам прыцягнула бліжэй да сябе, што было знакам поўнага, канчатковага прымірэння. Яшчэ напаследак хліпнуўшы раз, яна загаварыла

аднатонна ласкавым і ўжо зусім спакойным голасам:

— Я папраўдзе, Віця, кажу... Што я — адно сяджу ў хаце ды смакчу гэту няшчасную кудзелю... Ні чалавека жывога не ўбачыш, не пагамоніш ні з кім... І ты не прыходзіш ніколі... А каб я хадзіла ўсюды ды аціралася так сярод людзей, дык мо яшчэ разумнейшая была б за яе за каторую... Во што...

Віктар нарэшце пачуў пад нагамі цвёрды дол і, з законнай смеласцю абнімаючы Аўгіньку, выгаварыў ёй дзелавіта і строга:

— А я ж табе даўно гэта казаў, Аўгінька. Колькі разоў я гукаў цябе — пойдзем. Аўгінька, у нардом пойдзем. Аўгінька, на сход ці яшчэ там куды... А ты што, пайшла хоць калі? Пайшла?

— А што б татка сказаў?!!

— Ну вось бачыш? Тут ужо і татка... А якія мае адносіны татка да палітычна-асветнай працы? Ніякіх... Вось сёння таткі няма, а ў Сіўцы жаночая сходка... Ну, гайда са мной?..

Аўгіныса балесна ўздыхнула:

— Хату неяк кінуць адну, а то б, дадушы, пайшла... Ды і малых нешта няма — гэта ж ужо цёмна зусім...

Тут пунктуапьны камсамолец Віктар мусіў успомніць, што ён забег сюды толькі «пакуль збяруцца», і хоць ніхто там сёння і не думаў збірацца, а тут надзвычай цёпла блішчалі яму пасля слёз любыя Аўгіньчыны вочы, але ні за якія вочы не мог аддаць камсамолец Віктар свайго прэстыжу сталага чалавека і грамадскага працаўніка. Таму, сціснуўшы зубы, мусіў ён пераказаць сваю мімавольную і абсалютна несвоечасовую ману:

— Ну, Аўгінька, мяне чакаюць там... Я прынясу табе заўтра кніжак, і мы аб усім

пагамонім...

Праводзячы яго, Аўгінька нібы выпадкова зусім успомніла:

— Заўтра па абедзе татка зноў паедзе да дзядзькі...

І дамысны Віктар узяў гэта, вядомая рэч, пад увагу.

Выйшаўшы з хаты, ён горда ўзняў галаву і пасігаў у Сівец размашыстым, бадзёрым крокам чалавека, якому ў жыцці адкрываюцца бязмежна шырокія і квяцістыя перспектывы.

**4**

Скончыўшы раскулачванне ўсіх прызначаных да гэтае мэты сівецкіх гаспадароў, Пацяроб з шляхетнай сціпласцю і лагоднасцю далажыў Сымону Карызну:

— Раскудлычыў, Сымонка... Цяпер будзем у калгас запісваць...

Паглядзеўшы на яго жаласна-скрыўленую фізіяномію, можна было падумаць, што ён не толькі не пышыцца сваімі баявымі ўдачамі, а, наадварот, цяжарыцца імі і гатоў велікадушна перакласці іх на гонар каго другога. Але гэтая знадворная сціпласць была толькі асаблівым выяўленнем яго бязмежнай амбіцыі, бо ў глыбіні душы ён перажываў цяпер часіны найяснейшага, якога даўно не знаў ён, трыумфу.

Ён коратка, але надзвычай ясна выклаў Карызну свой геніяльны план правядзення запісу ў калгас, і Карызна цалкам з ім згадзіўся.

План быў просты і радыкальны.

Назаўтра зранку Пацяроб разам з дзядком Цівунчыкам і яшчэ некалькімі добраахвотнікамі пачаў з хаты ў хату абходзіць мястэчка. Што ён рабіў, зайшоўшы ў каторую хату, якія ўжываў метады агітацыі і прапаганды, гэта аставалася на яго шчырым пацяробаўскім сумлепні, але выходзіў ён адусюль з гордым выглядам пераможцы і нядбайна кідаў свайму сакратару кароткую мнагазначную фразу:

— Станоў, Цівунчык, чарговы нумар...

У сёмай хаце не было дома гаспадара. У восьмай таксама. І тое самае ў дзевятай.

Пацяроб зразумеў, што гэта значыць. Нават не міргнуўшы вокам, ён перайшоў на другі канец мястэчка і зачаў ад першае хаты. Усё пайшло ў належным парадку.

А прыблізна ў сёмай хаце не было дома гаспадара.

Пацяроб выйшаў на вуліцу і нейкі час стаяў, глыбакадумна раскірэчыўшы ногі і абмяркоўваючы неспадзяваную сітуацыю. Па якой хвіліне ён размашыста стукнуў далонню ў лоб, што азначала ў перакладзе на старагрэцкую мову:

— Эўрыка!

І падвёў свой наступ інакшай тактыкай. Ён браў хаты не ў рад, адну па адной, а ўроскідзь, нечакана з'яўляючыся то ў тым, то ў другім канцы мястэчка. Гэта давала больш працы яго бясконца даўгім, цыбатым нагам, але гарантавала, прынамсі, пяцьдзесят працантаў удачы.

Па мястэчку пайшоў дзівосны рух. Гаспадары пераходзілі з хатыў хату, ад суседа да суседа, ад сваяка да сваяка, туляючыся, каб не трапіць на вострае вока страшнага калектывізатара.

Пацяроб быў настойны і неадступны, як цень. У адказ на хітрыя манеўры дамыснага жыхарства ён тож пачаў ужываць стратэгічныя спосабы, якія б зрабілі гонар не абы-якому камандзіру. Ён пачаў практыкаваць тонкія дыверсіі: намеціўшы пункт атакі, дэманстрацыйна абмінаў яго, падаючыся зусім у іншы бок, а тады

раптам варочаўся і, як каршун на высачаную згары ахвяру, кідаўся на няшчасную халупу. Потым ён завёў сістэму папярэдняй выведкі, скарыстаўшы на гэтую мэту пару спрытных, дэтэктыўна настроеных падшывальцаў, якія рэгулярна даносілі яму, у якой хаце былі сабраўшыяся гаспадары.

Тах выяваў адважны няўломны Пацяроб, і ўрачысты дзядок Цівунчык спраўна выстаўляў у сваім спіску трафеяў «чарговыя нумары».

Як праходзілі паўз недарэчную сядзібу старога Галілея, Пацяроб суняўся і скоса згары ўніз зірнуў на ўгрузлую ў снег халупку. Потым узняў адно вока і, як певень на воблака, паглядзеў на сціплы Галілееў ветрачок, які ў гэты час круціўся з пакорнай і цалкам дабрамыснай павольнасцю. Усміхнуўшыся троху пагардліва, а троху дабрадушна, Пацяроб збочыў на вузенькую, у адну ступню, Галілееву сцежку, прыемна адчуваючы свой годны хвалы дэмакратызм, які не грэбуе нават такімі нікчэмнымі, ні да чаго не прыдатнымі людзьмі, як Галілей.

Дзверы ў Галілеевай хацёнцы былі завалены з сярэдзіны. Пацяроб уладарна грукнуў у іх і праз хвіліну паўтарыў свой задзірыста-грозны сігнал, бо з хаты не чуваць было жаднага гуку. Тады Пацяроб паляпаў даўжэй і больш настойліва, але вынік быў той самы.

Гэта была відочная абраза яму як прадстаўніку мясцовае ўлады, бо Галілей быў, ясная рэч, у двары — нават пачуўся быў зхаты стрымана-перасцерагальны брэх ягонага сабакі. Каб канчаткова ўпэўніцца ў зламыснай дэманстрацыі старога дзівака, Пацяроб сігануў у сумёт і, схіліўшы твар да маленькага і нізкага акенца, азірнуў усё нутро Галілеевае хацёнкі. Пышнае бязладдзе, якое панавала ў хацёнцы, затрымала на сабе ягоную ўвагу і распацешыла яго. Каб ён загадаў усяму свайму сельсавету знесці ў адну хату па каліву ўсякага, якое толькі ёсць на свеце, гломазду, дык бы не выйшла таго адменнага сметніка, які быў у Галілеевай хаце. Тут было ўсё, апрача самога гаспадара.

І Пацяроб усміхнуўся з велікадушнай паблажлівасцю. Ён ужо не злаваў на Галілея, хоць, можа, той і схаваўшыся быў дзе-небудзь у прытульным куточку, бо што ты возьмеш з такога вар'ята? І каб сказаў яму хто-небудзь, што кожнае каліва з Галілеева сметніка мае сваё адмысловае прызначэнне, што ўсё гэта — матэрыял для яго новай, надзвычай важнай работы, ён бы плюнуў таму ў вочы і назваў бы яго таксама вар'ятам.

Так і застаўся стары Галілей некалектывізаваны.

А каб велічны Пацяроб у залішняй пагардлівасці не схіляўся да самага нізу і так невысокага Галілеева акна, ён, можа б, і заўважыў у

верхнім куточку верхняе шыбы клок Галілеевае барадзёнкі і правіклівае Галілеева вока, якое праз увесь час нерухома глядзела на яго без страху, без трывогі і нават без здзіўлення — з адным незамутнёна-спакойным чаканнем.

Увечары таго ж дня зморaны, але ваяўніча настроены Пацяроб прыйшоў да Сымона Карызны і, нічога не гаворачы, урачыста-шырокім жэстам паклаў перад ім пратакол пра арганізацыю ў Сіўцы калектыўнае гаспадаркі, на якім стаялі подпісы большай палавіны сівецкіх гаспадароў.

Сымон Карызна, прагледзеўшы паперы, весела зірнуў на сціпла замамыленую Пацяробаву фізіяномію і з шчырым захапленнем крыкнуў:

— І гатова ўжо, га? Пацяроб! Гатова?..

Пацяроб, учыніўшы на твары сваю жаласна-пагардлівую міну, далікатна махнуў рукой:

— Пфэ!..

І ў гэты надзвычай выразлівы гук уклаў ён увесь свой пераможна-саманадзейны настрой, сваю каменную ўпэўненасць у тым, што каб адно далі яму поўную волю, дык не то што Сівец, а ўся акруга ў яго пішчом бы палезла ў калгас.

Карызна дужа не распытваўся, якім спосабам дасягнуў Пацяроб такой бліскучай удачы, ён нават стараўся як найменш і думаць пра гэта. Ён быў шчасліва задаволены добрым вынікам, і ў гэтым задавальненні бясследна распускаліся цені сумненняў, што такі спрабавалі цішком улазіць у ягоную свядомасць.

Карызна трыумфаваў. Ён быў наіўна ўпэўнены, што гэтае дасягненне – вынік той новай цвёрдай і пэўнай лініі, якую ён павёў па Зеленюковым ад’ездзе. Ён меў поўнае права зларадавацца і кпіць у думках з сваіх праціўнікаў, якія за адсутнасцю Зеленюка ўвасабляліся цяпер у рахманай і цярплівай асобе камсамольца Віктара.

— Я пакажу вам гэту зеленюкоўшчыну!

У яго ўжо быў ясны, канкрэтны план далейшай работы.

Заўтра. ж, паводле пастановы агульнага сходу ячэйкі, распускае сівалапаўскі калгас, бо яго арганізацыя была дапушчана, як часовы захад, толькі да ўтварэння ў Сіўцы агульнага калектыву.

Ніводнага з тых баламутаў ён не дапусціць да кіраўніцтва ў новым калгасе. Досыць ужо, накіраваліся!

Каго ж толькі вызначыць за старшыню?

У Пацяроба ёсць ужо пэўная кандыдатура: Андрэй Шыбянкоў.

Напамінак пра Андрэя Шыбянкова троху зацямрае Карызнаў настрой, але гэта чыста асабістае, да справы неналежнае. Можа,

нават і лепей будзе, як возьмецца ён за сталую сур'ёзную працу.

Менш будзе брынкаць на гэтай нялюбай гамзатай гітары.

Так, кандыдатура падходная.

— Ты з ім яшчэ не гаварыў пра гэта?

— Не гаварыў, любачка... Як жа я, не ўзгадніўшы з табой, буду вырашаць такія праблемы. Ён мне памагаў троху — пайшоў цяпер, здаецца, туды, да Веры Міхайлаўны...

Карызна, сам таго не прымячаючы, пачынае раптам спяшацца.

— Я таксама меўся ісці туды. Пойдзем, можа? Там і пагамонім...

— Пойдзем сабе...

Карызна ўпэўнены, што гэта ў яго выходзіць зусім проста, натуральна, што нікому і на думку не можа ўзысці, каб там у яго затачылася ўнутры нейкае дурное едкае пачуццё. А тым часам Пацяроб, адвярнуўшыся з далікатнасці ўбок, прыплюшчыў вока не толькі дамысна, а ў значнай меры і насмешліва.

...Стары дурней за маладога хлопца кахае...

Фактычна Карызна не меў ніякай падставы да зайздрасці, бо, апрача ігры на гітары, ён не бачыў з боку Андрэя Шыбянкова ніякіх асаблівых падходаў да Веры Засуліч. Але ў гэтых выпадках мова здаровае логікі бывае надта непраканалая, і Сымон Карызна, нягледзячы на ўсе довады розуму, ніяк не мог пазбыцца інстынктыўнага пачуцця апаскі ці; нават боязі, якое абуджалі ў ім частыя візіты Андрэя Шыбянкова да Веры.

А Пацяроб, пэўна, глядзеў на ўсе гэтыя рэчы больш проста і вульгарна. Ды такі збоку яно і відней, а таму.яго кплівае прыплюшчанне вока, магчыма, і мела сякую-такую слушнасць.

Яны абодва пайшлі да Веры Засуліч.

Вера сустрэла іх з шумнай радасцю, прычым зрабіла парыўчаты і вельмі мілы рух да Сымона Карызны, адначасна абмінуўшы з лёгкай сцеражлівасцю Пацяроба, бо той ужо памкнуўся быў да яе з страшэнна мілоснай мінай на твары, якая не вешчавала нічога добрага.

— П'явачка!

Тым часам «п'явачка», кінуўшы на Андрэя Шыбянковаі змоўнавясёлы погляд, зашчабятала:

— А я ўжо ведаю ўсё, усё чысценька. Малайцы, хлопцы! Значыць, у нас у Сіўцы ўжо калгас... А мы яшчэ свой, бабскі, хацелі былі рабіць... Смех адзін толькі!..

Андрэй Шыбянкоў, як зазвычай,сядзеў, фарсіста закінуўшы нагу за нагу, і брынкаў на вечнай сваёй гітары. Ён слухаў Верына шчабятанне з паблажлівай і, як зазвычай, загадкавай усмешкай, якая

мела дзіўную, нахабна-блізкую сувязь з узнятым настроем Веры Засуліч. Так, прынамсі, здалося Карызну.

Карызна адчуваў у гэту хвіліну да Андрэя вострую варожасць, якая яму не падабалася самому і ад якой усё-такі не мог ён ніяк пазбавіцца. Каб гвалтам сціснуць яе, прыдушыць, ён у наругу сабе звярнуўся да Андрэя ў адменна-прыязным тоне:

— Ну, браток Андрэй, прыйдзецца цябе запрэгчы. Мы вось з Пацяробам наважылі зрабіць цябе ведаеш кім?

Ён зрабіў паўзу, каб пабачыць Андрэеву нецярплівасць, але той глядзеў на яго з гордай стрыманасцю, нібы гаварыў яму сваімі чорнымі ўедлівымі вачмі: «Што б ні сказаў ты, браце мой, дык усё роўна мяне не здзівіш. Не тое бачылі…»

І Карызна скончыў мову сваю значна сушэй:

— Хочам цябе паставіць за старшыню сівецкага калгаса.

Андрэй вокам не міргнуў — па-ранейшаму стрымана ўсміхаўся і глядзеў на Карызну мала не з той самай паблажлівасцю, як на Веру. Нібы не яму гэтым гонар рабілі, а, наадварот, чакалі ягонае ласкі згадзіцца на гэта.

Затое Карызнава прапазіцыя выклікала гарачае захапленне Веры Засуліч. Яна бліскучымі вачмі глядзела на Андрэя, пляскала ў ладкі і радасна, можа, нават троху празмеру радасна, шчабятала:

— Ого! Во хто будзе за старшыню… Старшыня… Старшыня… У, якое начальства…

Карызна раззлаваўся і перапыніў яе наўмысна сухім, дзелавым працягам гутаркі:

— Гэта работа вельмі адказная. Калгас будзе вялікі — адзін на ўвесь Сівец і Сівалапы. Ты добра абдумай, абмяркуй гэтую справу, а заўтра пагутарым…

Андрэй стаў на момант сур'ёзны і дзелавіта адказаў:

— Добра, я падумаю…

Гэта гутарка сапсавала Карызну настрой. Ён злаваў на Андрэя, на Веру і нават на Пацяроба — за вульгарна-дамысную ўсмешку, якую той кідаў сяды-тады то на яго, то на Веру, то на Андрэя. Ён напінаў усе свае сілы, каб не збіцца з вясёлага прыяцельскага тону, і з гарачаю нецярплівасцю чакаў, калі нарэшце даўмяцца яны пайсці і дадуць яму магчымасць як мае быць пагаманіць з Верай. Ён не ўкладаў у гэтае «як мае быць» пакуль што ніякага пэўнага зместу, але чакаў ад гутаркі з Верай нейкага асаблівага задавальнення.

Вера прыцішэла і амаль не ўтыкалася ў гутарку. Яна раз-пораз узнімала на Карызну свае чыстыя, як крышталь, вочы і ўпарта глядзела на яго не то з маўклівым запытаннем, не то з цяжкай

развагаю. Карызна чуў на сабе гэтыя погляды, і яны чамусьці яшчэ больш распалялі ягоную злосць, дадавалі да яе едкае пачуццё помсты.

Як Пацяроб з Андрэем нарэшце зладзіліся ісці, Карызна раптам адмяніў свой замер і замест таго, каб астацца пагутарыць «як мае быць», стаў, сціснуўшы зубы, развітвацца. Ён быў упэўнены, што яго раптоўны, ніякім чынам не прадуважаны іхным любоўным рэгламентам адыход зробіць ёй такі самы боль, як і яму.

Вера пайшла, каб зашчапіць за імі дзверы. У цёмных сенцах яна знайшла Карызнаву руку і сціснула яе так, што, аврача пяшчотнасці, ён пачуў у гэтым поціску і ладную, зусім нечаканую ад яе сілу. Ён крыкнуў хлопцам, што дагоніць, а сам астаўся, цалкам здаволены такім канчаткам.

Яна прывяла яго за руку назад, у свой пакой, там абшчапіла моцна за шыю і, зазірнуўшы ў твар яму бліскучымі ад слёз вачмі, запытала:

— За што злуешся?

Гэта выйшла ў яе так шчыра і так прыгожа, што ў яго ад злосці не асталося і следу. Глыбока расчулены, ён прытуліў яе да сябе і, пяшчотна гладзячы яе валасы, загаварыў у

балючым узрушэнні:

— Ты не кахаеш мяне... Ты маніш мне... Можа, і сабе маніш таксама... Ты стараешся бачыць ва мне не такога, кім я ёсць, ты не такога мяне кахаеш...

Ён зачаў быў гаварыць гэта проста, каб расчуліць яе, каб выклікаць яе на прызнанні, і раптам заўважыў, што сказаў нешта большае за таго, што меўся сказаць, нешта блізкае да страшнай немінучай праўды, якую ён інстынктыўна хаваў дасюль ад самога сябе.

Вера маўчала.

Спалоханы сваімі ўласнымі словамі, ён з сутаргавай парыўчатасцю сціскаў яе ў сваіх руках, нібы хто вырываў яе ад яго, і шаптаў гарачым бязладным шэптам:

— Што мне рабіць? Вяруська, родная мая... што мне рабіць? Я кахаю цябе бязмежна — я баюся... мне цяжка, надзвычайна цяжка... Ну, ці кахаеш ты?.. ці кахаеш?..

Яна глядзела на яго з пякучым жалем, яна ледзь не плакала, бачачы яго балеснае мітушэнне. І ён быў невымоўна рад гэтым, бо не ведаў ці, можа, забыўся ў тую хвіліну, што жаль — гэта яшчэ не зусім каханне.

...Стары дурней за маладога хлопца кахае...

## 5

Ізноў выходзіў за Сівец стары спрадвечны пастух Аніська і, стаўшы на ўзгорку ў гордай рыцарскай паставе, задорнай песняй свае берасцянае трубы клікаў на сход маўклівыя Сівалапы.

Сівалапаўскія калгаснікі ішлі панурай, марудлівай грамадой. Скасаванне іхнага маладога, але вельмі дружнага, заўзятага калектыву прыгняло іх неспадзяваным цяжарам і атруціла ўсім ім настрой. Дакладна пільнуючыся пастановы агульнага сходу ячэйкі, Якуб Лакота і іншыя сівалапаўскія камуністы, як станавілі пытанне пра ўваход у агульны сівецкі калектыў, доўга і ўпарта тлумачылі, чаму гэта патрэбна, даводзілі карысць такога злучэння, і калгаснікі нібыта згадзіліся. А тым часам у кожнага асталося ўнутры глухое нездаволенне, бо ўсе бачылі, як складаўся сівецкі калгас, і чулі, што такі пачатак не вяшчуе нічога добрага.

Рады былі страшэнна тыя, хто зусім не хацеў калгаса. Ворагі калектывізацыі не абмінулі гэтага выпадку, не скарыстаўшы яго для свае злоснае агітацыі. Калгаснікаў атачылі насмешкамі, кпінамі, дадзявалі ім караткавечнасцю іхнага гаспадарвання.

— Нядоўга пакалгасілі, яшчэ ў самы смак не ўвайшлі...

— Без пяці мінут камунары!

— Яшчэ, дзякуй Богу, не ўправіліся кашуль паздзяваць?

— Ці добра ў сацыялізме?

— От вам сівецкія цяпер пакажуць сацыялізм!..

З'явіўся нават настрой зусім больш не ісці ў калектыў, і некаторыя, пачуўшы зычны голас Аніськавае трубы, неўзаметку плявалі і цішком залазілі на печ, строга наказваючы сваім дамоўцам, што калі хто будзе пытаць, дык іх няма дома. Але большасць усё-ткі пайшла паспытаць шчасця ў новым калгасе.

Сход прайшоў млява, маўкліва. Наўрад каб сышлося там хоць палавіна ўсіх, хто быў запісаны ў калектыў. А і тыя, што прыйшлі, адчувалі сябе няўпэўнена і скрозь пазіралі адзін на аднаго з адным бясслоўным запытаннем у вачах:

— Што з гэтага ўсяго будзе?

Карызна адчуваў настрой сходу, яго стрыманы холад, і лёгкая бадзёрая весялосць, якую ён выяўляў з наўмыснай гучнасцю, мела ў значнай меры штучны, дэманстрацыйны характар. Гэтую весялосць уласна падтрымліваў у ім бадзёры, неўлякліві Пацяроб, праўдзівы герой гэтага дня.

Пацяроб трыумфаваў. Ён пахаджаў па сцэне нардома з такім апломбам, што нават той, чые вочы добра прызвычаіліся да яго

даўгалыгай фігуры, мог падзіваваць з яе асаблівай, фенаменальнай нязграбнасці. Ён штохвіліну злёгку торгаў рукой падвешаны на раменьчыку цераз плячо наган і з асалодай прыслухваўся да апетытнага парыпвання свежай скуранай похвы. Гэта была прымета яго добрага гумору і філасофскае самаўглыблёнасці.

Пацяроб напрасіўся, каб яму дазволілі сёння зрабіць невялічкі даклад, і чакаў адчынення сходу з гордай упэўненасцю ў грымучым эфекце свае прамовы.

Яго выступленне маўклівая зала сустрэла яшчэ большым, яшчэ халаднейшым маўчаннем, і гэта яму ўпадабалася, бо ён лічыў, што пачцівае маўчанне масы перад прамоўцам ёсць найвышэйшы пункт справядлівай, цалкам заслужанай ім пашаны. У яго была дзівосная здольнасць — гаварыць, не зважаючы на аўдыторыю, і таму прамова яго папраўдзе выйшла эфектная. Ён крычаў, жудасна жэстыкуляваў, нападаў, адбіваўся, жартаваў, нават смяяўся — усё гэта перад маўклівым, як лёд, натоўпам. На канчатак ён агаласіў цэлую чараду «хай жыве» і, зрабіўшы заключны надзвычайна велічны жэст, першы запляскаў у ладкі, напамінаючы публіцы пра элементарную далікатнасць.

Зала падтрымала яго рэдкімі вымушанымі воплескамі, і ён пайшоў да свайго месца ў прэзідыум, глыбока сабой задаволены.

Троху ажывіў быў сход Якуб Лакота. Ён гаварыў доўга і праканала, горача перажываючы кожны сказ свае прамовы, і тупа застылая ўвага натоўпу зачынала ўжо віхраваць свежымі павевамі цікавасці і ажыўлення. Як гэта ні дзіўна, але Якуб Лакота — мабыць, адзін з усіх сівалапаўскіх калгаснікаў — быў цалкам здаволены лёсам свайго калектыву. Ён неяк зусім быў забыўся падумаць пра тое, што гэты новы зварот справы кратае яго асабіста, што гэта — як ні кажы — а ўсё-ткі ладны ўдар і па ягоным гонары. Таму і не было ў ім ні каліва тае мімавольнае прыкрае няёмкасці, што звычайна звязвае працаўніка, якога чаму-небудзь адставілі ад спраўленай ім работы. Якуб Лакота быў шчыра рады тым, што распачатая імі справа выходзіць на шырэйшую прастору і разам з гэтым набліжаецца да маштабу яго першапачатковых, балюча выпешчаных ім планаў. А хто будзе праводзіць іх у жыццё, хіба не ўсё роўна яму?

Сваю гэту радасць і свой творчы запал выліваў Якуб Лакота перад панура-маўклівай, прыбітай пацяробаўскім энтузіязмам масай сялян, і маса шавялілася памаленьку, настарожвалася ў яшчэ нясмелай гатоўнасці да цяжкага зруху свае закаржавелае свядомасці, да неабыклага разварушэння сваіх зацвілых ад доўгага неўжывання думак. Яшчэ не ўправіўся скончыць ён прамовы, як з публікі плоймай

пасыпаліся да яго запытанні. Адылі ўстаў з свайго месца манументальны Пацяроб і ўладна супакоіў публіку:

— На запытанні адкажа ў заключным слове таварыш дакладчык.

Якуб Лакота зірнуў на яго сваімі чыстымі, поўнымі шчырай няўцямнасці вачмі і, троху разгублены, паспешна скончыў прамову.

Зала застыла зноў у хмурай нязрушнай маўклівасці.

Абралі на тым сходзе новую ўправу калгаса — усе галасавалі з пакорнай дружнасцю за выстаўленых кандыдатаў. Адно сівалапаўцы патрабавалі ўвесці яшчэ ў склад управы Якуба Лакоту і, насупар гвалтоўным запярэчанням Пацяроба, дамагліся таго, што яго абралі за кандыдата. З такім жа аднадушшам ухвалілі гучную велягурыстую рэзалюцыю, укладзеную новым старшынёй калгаса Андрэем Шыбянковым.

Пад канец сходу Пацяроб мнагазначна таўхануў у бок Карызну і, падміргнуўшы яму, пахваліўся:

— Ну, як, Сымонка, здорава, га?

Карызна здзіўлена зірнуў на свайго прыяцеля і, пры ўсёй прыязнасці да яго, з трывогай падумаў: «Ці ён сапраўды такі дурань, ці толькі прыкідваецца?»

Сымон Карызна добра разумеў, што ўсё гэта не так, як трэба, ён з шчымлівым болем адчуваў глыбокі фальш пацяробаўскага трыумфу, але яму ўжо няўзмогу было суняць ход падзей, надаць ім іншы кірунак, бо гэтага іншага кірунку ён ужо не бачыў і сам. Ашаломлены магутным рухам бурна разгойданага жыццёвага мора, ён, каб не захлынуцца ў грозных хвалях яго, здаўся на першую, якая трапілася яму, плынь, і гэтая лёгкая павярхоўная плынь паслужна несла яго ў цьмяную далеч, падманваючы аблудна-ружовымі надзеямі.

Гэта была астатняя стаўка Сымона Карызны.

З таго панурага сходу разышліся былі ўсе з адчуваннем глыбокага неўразумення, няпэўнасці ў перспектыве заўтрашняга дня, і толькі два чалавекі, найбольш углыбленыя ў сябе, у свой нутраны, цвёрда збудаваны імі свет, былі зусім спакойныя і бадзёрыя. Гэта былі — Пацяроб і Якуб Лакота. Лакоту, праўда, быў устурбаваў троху неўгамонны Галілей, але сваімі загадкавымі выразамі ён узняў у ім больш няўцямнасці, чымся сумнення.

Галілей з'явіўся побач з Якубам, як той выходзіў ужо з мястэчка. Якуб не здзівіўся, угледзеўшы ў цемры яго хімерна-скурчаны цень, і адразу запытаў цёплым прыяцельскім тонам:

— Вы да мяне, дзядзька Ахрэм?

Галілей замест адказу завёў адразу свае мудраванні:

— Кхе-кхе... Хто яго ведае... Можа, і няма ніякае рэвалюцыі... ага... можа, адно папужалі... Не ведаю я... ага... нічога не ведаю.

У ціхім далёкім Галілеевым голасе адчувалася напружаная, прасякнутая глыбокім смуткам развага. Ён відочна збянтэжаны быў гэтым сходам, і дзіўны непакой яго распаліўся новым трывожным агнём.

— Хто яго ведае... ага... Як рэвалюцыя, дык тлум бывае вялікі, ага... крычаць людзі... мітушацца... А вось нашы маўчаць... Ён крычыць, дык без сэнсу... Ён не так крычыць, як трэба... Няправільна!..

І ў астатніх словах старога дзівака раптам празвінеў зусім не стасоўны да яго — цвёрды, рашучы гнеў. Якуб Лакота, узварушаны Галілеевай шчырасцю, азваўся з пяшчотнай ласкай у голасе:

— Вы, дзядзька Ахрэм, усё да сэрца берыцё, дык і турбуецеся вечна...

Галілей буркнуў зусім ціха, нібы сам сабе:

— Сэрцам больш імеш, чымся розумам...— І троху смялей, выразней дадаў: — А без сэрца чалавеку няможна... ага... зусім няможна... Без сэрца розум высахне ў чалавека...

Якуб Лакота хітравата ўсміхнуўся сам сабе ў цемры.

— А рэвалюцыя, дзядзька Ахрэм, без сэрца. Яна не мае жалю, дык, значыць, не мае і сэрца...

Галілей настаўбурчыўся:

— Няпраўда! Ёсць жаль... ага... ёсць сэрца. Рэвалюцыя ад сэрца ідзе... Яна любіць людзей і шкадуе іх... ага... Б'ючы, шкадуе... вось...

Тут стары заўважыў сваё няўмыснае ўзрушэнне і, засаромеўшыся яго, стуліўся ў шкарупу звычайнай замкнёнасці.

Галілей часцяком хадзіў цяпер да Якуба Лахоты, і яны доўгія гадзіны праседжвалі ўдвух, зашчапіўшыся ў Якубавым «габінеце» і абмяркоўваючы нейкія свае, вядомыя толькі ім двум, справы. Зазвычай па гэткіх гутарках Галілей асабліва паспешна трусіўся да свае замеценае снегам хацёнкі і з нецярплівым імпэтам браўся за сваю таемную работу.

Аднак у гэты раз Галілеева візіта была вельмі кароткая. У ім, відаць, моцна засела ўзнятае сходам абурэнне і скрозь мардавала яго назоллівай непакойнай турботай, ад якой стары не ведаў сам куды дзецца. Ці толькі ўвайшлі яны ў Якубаў «габінет» і гаспадар узяўся ладзіць сваю мізэрную — пяты нумар — газовачку, Галілей падскочыў да яго і, бесцырымонна замінаючы яму, закулдыячыў:

— А вось гэта яшчэ... Жыў-быў цар... ага... цар Ляксандр... А ў яго быў супрацiўнік Гардзей... Гардзей той завязаў быў дужа мудроны вузел і ў наругу цару Ляксандру — на, кажа, развяжы, калі ты

разумней за мяне... ага... Дык цар, не патрапіўшы, ага... выняў меч і — раз... перасек той вузел... ага... перасек...

Галілеева гістарычная недакладнасць троху рассмяшыла Якуба Лакоту, але ён з далікатнасці зацяў сваю ўсмешку і ў тон старому запытаў:

— Ну і што ж, дзядзька Ахрэм, хто разумнейшы быў: цар Ляксандр ці той самы Гардзей?

Галілей гарачкава зацерушыўся на месцы і затрос барадзёнкай.

— Дурны быў цар... ага... Дурны Ляксандр... Сячы кожны патрапіць... І гэты... але... і гэты сячэ... А хай развяжа, ага... хай развяжа!

Якуб зразумеў, што стары гаворыць пра Пацяроба, і,каб яшчэ больш падвухрыць яго, спакойна зазначыў:

— Што ж, бываюць такія моманты, калі трэба дзейнічаць рашуча і смела... Ці ж не праўда, дзядзька Ахрэм?

Тут ужо стары дзівак зусім распаліўся:

— Няпраўда! Няпраўда!.. Не рашучы ён... ага... Не смелы ён... Ён — рызыкант!.. Ён бурыць... ага... ён разбурае... усё разбурае...

Якуб наўмысля трымаў далей свой жартліва-супярэчлівы тон — яму цікава было разгарнуць да самага нутра Галілеева дзівоснае ўзрушэнне.

— А ведаеш, дзядзька Ахрэм, і гэта ж таксама трэба... У жыцці скрозь працуюць дзве сілы: адна разбурае, а другая будуе... Вось ён, скажам, разбурае, а вы, дзядзька Ахрэм, сёе-тое будуеце... Можа, для таго, што вы будуеце, ён месца цярэбіць, га?..

Галілей страшэнна спалохаўся гэтага параўнання.

— Ён і маё разбурыць... ага... ён разбурыць... Ён глядзеў у акно... ён смяяўся... ага... смяяўся...

І стары раптам кінуўся да дзвярэй, нібы і папраўдзе баяўся, што там, у мізэрнай яго хацёнцы, страшны Пацяроб у гэту хвіліну бязлітасна разбурае ўсю яго таемную цудоўную пабудову.

Якуб памкнуўся суняць яго:

— Куды вы, дзядзька Ахрэм? Чакайце, пагамонім яшчэ...

Галілей на хвіліну суняўся ў дзвярах, але гэта ўжо быў звычайны штодзённы Галілей — ціхі, маўклівы, стрыманы. Бурнае ўзрушэнне яго зноў схавалася ў спадзейную шкарупу яго звычайнае замкнёнасці.

— Кхе... Кхе... позна ўжо... Спаць ужо трэба...

І, каб паказаць, што ён сапраўды хоча спаць, стары хітрун скоранька, але вельмі старанна пазяхнуў.

Якуб Лакота правёў Галілея на вуліцу і доўга з глухой няўцямнасцю слухаў, як пялёсткамі лёгкага хрусту знікалі ў цемры дробныя, паспешныя крокі старога.

«Што ён мае да гэтага Пацяроба? Не можа быць, каб ён папраўдзе баяўся яго».

І Якуб Лакота, безумоўна, меў рацыю — Галілей не баяўся Пацяроба. Галілей пагарджаў Пацяробам таксама, як Пацяроб Галілеем, і таксама не лічыў яго за вартага сур'ёзнае ўвагі чалавека. Калі і стараўся ён менш трапляць на вочы суроваму начальству, калі і ўнікаў усякага з ім дачынення, дык рабіў гэта больш з арганічнае свае антыпатыі да яго, чымся са страху. І тое, што ў акно глядзеў Пацяроб, што смяяўся з ягонага творчага гломазду, тож, кажучы шчыра, турбавала яго не больш, як леташні снег.

Але чаму ж так спяшаўся ён да свае самотнае мярлогі, нібы бег ратаваць сваё дзівачнае, нікому не патрэбнае начынне ад грознае стыхійнае навалы?

Можа, быў гэты інстынктыўны страх перад той самай сілай разбурэння, аб якой жартам казаў Якуб Лакота і якую ён, Галілей, ва ўласцівай яму хваравітай экзальтацыі мог уявіць як нешта матэрыяльнае і трывожна блізкае?

А мо проста дзівачыў стары мудрагель, ашукваючы людзей і самога сябе?

## 6

Бывае часам у сне такое страшнае адчуванне няпэўнасці, адчуванне вострага крутога рубяжа паміж жыццём і смерцю, якое страсае нутро чалавека магутным звярыным жахам і нават па сне пакідае ў ім след свой — дрыготны цень невыразнай трывогі. Сніш зазвычай тады, што зыходзіш на нейкую высокую строму, куды непераможна штурхае салодка п'янючае пачуццё надзвычайнага, ніколі не зазнанага ў сапраўдным жыцці ўздыму. Ідзеш на гэтую строму шпарка і легка, нібы нясе цябе нявіднае крылле. І толькі на самай гары, дзе ўжо асталося ступіць адзін яшчэ крок, каб дасягнуць жаданае высакосці, раптам апаноўвае гэтае жудаснае адчуванне няпэўнасці, і застываеш на момант у цудоўным здранцвенні, баючыся зрабіць найменшы рух, каб не пахіснуцца назад у страшную цяпер таемную прорву. Тады чалавек хваравіта, страшна чуе ўсю сваю існасць, напружана стоўпленую ў ім, як у кроплі вады, што во-во гатова капнуць, сарваўшыся з берагоў пасудзіны.

Прыблізна такі настрой — толькі не ў сне, а ў сапраўднасці — перажываў цяпер Сымон Карызна.

Уцякаючы ад сваіх непазбыўных трывог і страху, ад свайго нязноснага душэўнага мітушэння, Сымон Карызна рынма рынуўся

быў у абнімкі адчайнае пацяробаўшчыны, бо, апроч гэтага безадказна-напорнага замарачнага гону, не бачыў больш спосабу вырвацца з вязьма супярэчнасцей, што з кожным днём усё шчытней і шчытней заціскала яго.

Гэта была астатняя стаўка Сымона Карызны.

І вось лёгкае нявіднае крылле нясло яго на стромкую верхавіну раптоўных, ніколі ім не чаканых удач. Усе перашкоды, якія сустракаліся цяпер на дарозе, адляталі пустым лушпавіннем — смешныя, мізэрныя ў сваім бяссіллі. Тое, што паўставала даўней перад свядомасцю глыбокімі неразвязнымі праблемамі, цяпер абярнулася ў глупасныя непаразуменні, якія зусім проста і лёгка было абмінуць, не чапаючы іх. І з кожвай хвілінай набліжалася жаданая высакосць, да якой аставалася яшчэ ступіць усяго некалькі крокаў.

Сымон Карызна адчуваў надзвычайны, ніколі дасюль не зазнаны ўздым.

Сапраўды, усё ішло як мае быць. Калектывізацыя Сіўца, праведзеная слаўным Пацяробам з маланкавай, дзіву вартай быстрынёй і рашучасцю, хоць і выклікала была з першай пары глухое нездаволенне жыхарства, але ашаломленыя раптоўнасцю падзей дабрамысныя сівецкія грамадзяне нават не ўправіліся былі і выявіць гэтага свайго нездаволення і, агледзеўшыся, маўкліва згадзіліся з тым ад іх незалежным фактам, што яны з гаспадароў-аднаасобнікаў абярнуліся ў найзаконнейшых сяброў калгаса «Гром рэвалюцыі». Следам за Сіўцом пайшла ў калгасы і большасць вёсак Сівецкага сельсавета, у якіх верныя паплечнікі Пацяроба, якіх раптам аказалася больш нават, чым трэба, строга і няўхільна гнулі лінію правадыра.

Сівецкі сельсавет ішоў сямімільнымі крокамі да суцэльнае калектывізацыі, поўнае завяршэнне якой было ўжо справаю бадай што некалькіх дзён.

І вось тут акурат, як астаўся адзін толькі крок да канчатковага дасягнення пастаўленае мэты, як ужо зачынаў узнімацца першымі хвалямі хмельны прыліў блізкага трыумфу,— тут апанавала Сымона Карызну жудаснае адчуванне няпэўнасці, і тут ён суняўся, баючыся ступіць яшчэ апошні рашучы крок, каб не пахіснуцца назад, не рынуць у страшную таемную прорву.

Увесь сэнс гэтага новага настойна-турботнага пачуцця азначаўся ў Карызнавай свядомасці адным катэгарычным запытаннем:

— Што будзе далей?

Гэта не была цвярозая дзелавая рупата працаўніка аб праўленай ім рабоце — Сымон Карызна ў сваіх сутаргавых кіданнях неўзаметку страціў увесь свой арганічны зрост з агульным магутна-

«На базе суцэльнае калектывізацыі ліквідуем кулацтва як клас!»
«Заўтра — першы дзень бальшавіцкай калектыўнае сяўбы!»
«Хай жыве сацыялістычная арганізацыя працы!»

І толькі ў адным невялічкім лозунгу рамантычная натура Веры Засуліч неспадзявана вылілася ў цалкам бязвінныя, але троху залішне лірычныя радкі:

«З кволай руні закрасуюць
Залатыя каласы...»

Адылі гэты лозунг павешаны быў у самым цёмным куточку, яго мала хто прымячаў. Ды і наогул на лозунгі, на сцяжкі, на зяленыя хвойныя лапкі, на ўсю гэтую пышную аздобу нардомаўскае залы мала зважалі сівецкія грамадзяне, бо іхняя ўвага цалкам была скупчана навокал аднаго пункта, які нясцерпна дражніў усіх сваёй загадкавай таямнічасцю.

Наперадзе, з боку ад сцэны, цэлы куток залы быў завешан стракатай заслонай, зляпленай з старых выцвілых і парудзелых сялянскіх дзяружак. Уваход за гэту заслонку быў строга ўсім заказаны, і нават дападлівыя падшпаркі, якія памкнуліся былі пераступіць суровы заказ і хоць адным вокам зазірнуць у чароўны куточак, былі злоўлены на гарачым учынку і ўрачыста выдалены з памяшкання.

З самага пачатку вечара цераз залу патрусіўся быў мізэрны, ушчэнт перапалоханы агульнай увагай Галілей і знік за таемнай заслонай. Апрача яго, туды раз-пораз забягалі радасна заклапочаныя камсамольцы на чале з сакратаром ячэйкі Віктарам, які, аднак, упраўляўся сумленна дзяліць сваю ўвагу паміж гэтым кутком і адным добра прыкметным яму месцам у натоўпе, адкуль шчаслівым бляскам ззялі яму ясныя Аўгіньчыны вочы.

Нарэшце агульны сход сівецкага калгаса абвясцілі адкрытым, абралі адпаведную моманту шырокую мнагалюдную прэзідыю, куды ўвялі безліч усякіх прадстаўнікоў, і першае слова для даклада атрымаў старшыня калгаса таварыш Лакота.

Якуб Лакота паволі ўстаў са свайго месца ў прэзідыуме, перакінуўся кароткім, але надзвычай выразлівым і цёплым позіркам з Тацянай Шыбянковай і, усміхнуўшыся сваёй мілай, светлай усмешкай, выйшаў на авансцэну. Гаварыў ён, як зазвычай, ціха, марудна, з патугаю, перамагаючы сваю фізічную слабасць і сваё нязмернае захапленне.

— Таварышы! Заўтра ўранні мы кінем першыя зярняты ў нашу новую калгасную глебу, у наша новае агульнае поле. Гэты сход мы сабралі, таварышы, на тое, каб падрахаваць свае сілы і сродкі, свае ўдачы і няўдачы, каб азірнуцца на момант на той шлях, якім мы

дайшлі да свае першае бальшавіцкае калектыўнае сяўбы. Наш шлях быў нялёгкі, на ім было многа каўдобін, у якіх мы здорава грузлі, але пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі мы перамаглі ўсе перашкоды і выйшлі на роўную цвёрдую дарогу. Таварышы! Мы яшчэ не ўсе добра ўяўляем, куды вядзе гэта дарога, сярод нас ёсць яшчэ ці мала такіх, што не вераць, што сумняваюцца. Мы пакажам усім, мы давядзём сваёй дружнай калектыўнай працай, што наша дарога — пэўная, што яна вядзе да лепшага жыцця. Таварышы! Вось зараз вы ўбачыце... мы пакажам вам невялічкую карцінку... Гэта не выдумства якое, не фантазія — усё гэта зроблена на падставе дакладных планаў, усё гэта вымеркавана да маленькай дробачкі... Гэтага мы можам дасягнуць за якіх пяць — дзесяць год. І дасягнем, мусім дасягнуць, абы ахвота была, энергія ды дружнасць!..

Якуб Лакота зрабіў непрыкметны знак рукой, і заслона, што адгараджвала пярэдні куток залы, ураз расхінулася, адкрыўшы схаваную за ёй таямніцу.

У зале ўзняўся страшэнны вэрхал. Усе паўставалі з месц, усе лезлі наперад — кожны хацеў як найхутчэй убачыць дзівосную штуку. Аднак у першы момант толькі тыя, што былі на самым перадзе, здолелі як след разгледзець адкрытую іхнім вачам карціну.

Гэта быў Сівец ці, праўдзівей, тое месца, дзе стаяў цяпер гэты шэры, нязграбны, загрузлы ў непралазным брудзе Сівец. Тыя самыя ўзгоркі, тая самая паміж іх вілаватая вёрткая рэчка, той самы шырокі шлях у гонкія засівецкія далі.

Але ж чаго толькі не нагарадзіла туг гарэзная фантазія непакойнага чалавека!

Роўныя, чыстыя, асветленыя электрычнасцю вуліцы, новыя вялікія дамы дзіўнай, у свеце нябачанай архітэктуры, старанна дапасаванай да найбольшае выгоды жылля.

Сярод мястэчка, дзе цяпер самае балота,— гладкі раскошны пляц, навокал якога размешчаны розныя грамадскія і культурныя ўстановы.

Зводдаль ад жыллёвых будынкаў — цэлая сістэма будынкаў гаспадарчых: свірны, адрыны, хлявы — усё з электрычнасцю, з ацяпленнем, з авадненнем, з рознымі атрыбутамі найноўшае будаўнічае тэхнікі.

А навокал — шырокімі палатнінамі паслалася калгаснае поле, парэзанае на роўныя квадраты сеткай палявых дарог, упарадкаванае паводле правіл найдасканалейшага севазвароту.

Гэта была папраўдзе цудоўная работа, галоўна каштоўная тым, што ўся яна была зроблена на аснове рэальных разрахункаў, на

аснове дакладных планаў, на якія клаў астатнія рэшткі сваіх надламаных сіл другі непакойны чалавек — чырвоны інвалід Якуб Лакота.

Але і тут не абышоўся стары Галілей без вечнага свайго дзівацтва — сярод усяе гэтае раскошы, як барадаўка на чыстым здаровым целе, тырчала ў поўнай сваёй красе мізэрная, убогая Галілеева хацёнка, і над ёй, як дзікі недарэчны ўбор на галаве вар'ята, узнасіліся непамерна вялікія, грамоздкія крыллі ветрака.

Што хацеў паказаць стары мудрагель гэтым сваім дзівачлівым жартам?..

З вялікімі патугамі ўдалося, нарэшце, навесці ў зале сякі-такі парадак, і Якуб Лакота зноў пачаў гаварыць:

— Таварышы! Перш чым рабіць далей свой даклад, я павінен адзначыць, што гэтая надзвычайна каштоўная і навучальная выстаўка, якую вы ўсе будзеце мець магчымасць тут аглядаць, збудавана выключна рукамі вядомага вам усім селяніна-бедняка Ахрэма Данілавіча Пунціка, або, як мы прывыклі зваць яго, Галілея. Ад імя ўправы калгаса я выказваю яму шчырую падзяку і прапаную абраць яго ў прэзідыум нашага сходу.

Зала выбухнула дружнымі воплескамі, і ўсе пачалі шукаць вачмі хударлявае фігуры старога вынаходцы.

Але Галілея ў зале ўжо не было: ён уцёк, скарыстаўшы агульнае замяшанне.

На цёмнай сівецкай вуліцы Галілея дагнаў яго прыяцель аптэкар Плакс — ён жа кіраўнік драмгуртка і мястэчковы філосаф.

— Гэта — тэхніка, Галілей? Га?..

Галілей, не сунімаючы свае дробнае лёгкае хады, адказаў:

— Кхе-кхе... Тэхніка, доктар... ага... тэхніка...

— А дзе ж там твой чалавек, Галілей? Я не бачыў там чалавека... Чаму ты, Галілей, якога новага чалавека сабе не прымудраваў, га?

Гэта падступнае запытанне сівецкага мізантропа, відаць, дадзела старому, і ён з навучальнай строгасцю прабурчаў:

— Няможна, доктар, так казаць пра людзей... ага... няможна... Новых людзей не трэба... Гэтыя людзі будуць новыя... Трэба, доктар, чалавека любіць... ага... трэба любіць...

Аптэкар Плакс хацеў быў яшчэ нешта сказаць, адылі абмежаваўся адным невыразным гукам, у якім не было нават досыць прыкметнае дозы звычайнага плаксаўскага скептыцызму.

І тут прыяцелі разлучыліся: Галілей патрусіўся некуды па цёплай сівецкай вуліцы, а кіраўнік драмгуртка і мястэчковы філосаф вярнуўся ў нардом паказваць калектывізаванаму сівецкаму грамадзян-

ству сваю чарговую пастаноўку.

1932



У 1932 годзе выйшаў у свет раман Міхася Зарэцкага "Вязьмо", філасофскі і вострадраматычны твор, які прынёс яму шырокую вядомасць. Прайшло нямала гадоў, але маральныя праблемы, узнятыя ў ім, не састарэлі, а нечакана зноў набылі сугучнасць з сучасным жыццём. Цэнтральную для літаратуры канца 20-х – пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя тэму калектывізацыі М. Зарэцкі спрабуе вырашыць праз раскрыццё чалавечых характараў, праз іх драматычнае сутыкненне. Вострая праблемнасць, паглыбленне ў сацыяльную псіхалогію людзей характарызуюць гэты твор.